



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

10 лютага 2017 года №6 (1137)



Золотая мечта ювелирная сеть

Акция «Любовная лихорадка»!!! Сногсшибательные СКИДКИ до 74%

на золото и серебро

ВЫГОДНЫЕ РАССРОЧКИ до 9 месяцев без первого платежа. Рассрочка БЕЗ СПРАВКИ о доходах на выгодных условиях.

**Порадуй любимых подарками в магазинах «Золотая мечта»**

**МОЛОДЕЧНО, ул Притыцкого, 25** (возле универмага)
**ул. Волынца, 7** (напротив гармонной фабрики)

ООО "БигПрайм" УНП 691511104




# "Міма такіх пысак прайсці немагчыма!"

## Як вілейскія валанцёры дапамагаюць катам і сабакам знайсці новы дом

Студэнтка Настасся Збераноўская ахвотна дапамагае даглядаць жывёл, хаця ў самой ёсць "два з паловай" каты: два жывуць дома, а яшчэ аднаго яна пастаянна падкормлівае на вуліцы.

старонка 20

Фота Аляксандры ПАРАХНІ.


ООО «ОкнаХом» УНП691403311
ОкнаХом ГАРАНТИЯ КАЧЕСТВА
Велком 8029 340-06-06
МТС 8033 340-06-06
ОКНА и ДВЕРИ ПВХ
oknahome.by
ПРАЗДНИКИ ПРОДОЛЖАЮТСЯ!
СУПЕР ВЫГОДНО!!!
Рассрочка без первоначального взноса до 12 месяцев
ЗВОНИТЕ СЕЙЧАС!

ВЫГОДНАЯ ЦЕНА!
- Мука доломитовая, 30 кг – 3 р. 20 к.
- Портландцемент М500 Д20 25 кг – 3 р. 80 к.
- Семена в ассортименте, уп, – от 0 р. 27 к.
- Поликарбонат 2,10*6м/1 лист – от 52 р. 75 к.

Проводятся ежемесячные скидки и акции, бонусная программа, наличный и безналичный расчёт

- Крупа манная ТМ "Кумушка" 0,7 кг – 0 р. 89 к.
- Соус "Шашлычный", т.3 "Эколайн" в стекл. банке. 500 г. – 1 р. 38 к.
- Макаронные изделия "Рожки" соломка гр.В в/с 900 гр – 0 р. 96 к.

ПОКУПАТЬ У НАС ВЫГОДНО!
ПРИГЛАШАЕМ ЗА ПОКУПКАМИ!
Ждём Вас: г. Молодечно, ул. Либаво-Роменская, 46
Тел. (80176) 77-76-45,(8029) 817-79-26, (8029) 109-81-54
Наш сайт: stroyprodukt.by
ООО «Торговый дом «Стройпродукт» УНП 690283106

Рэклама ў "РГ"
(80176) 75-38-41
reklama@rh.by

## У Іркуцку адкрылі сквер у гонар ураджэнца Куранца

ВІЛЕЙКА

У Іркуцку 24 студзеня адкрылі сквер імя прафесара **Хаім-Бера Ходаса**. Адкрыццё прымеркавалі да 120-годдзя з дня нараджэння вядомага савецкага навукоўца, лекара, ганаровага грамадзяніна Іркуцка.

Ва ўрачыстым мерапрыемстве прынялі ўдзел мэр абласнога цэнтра **Дзмітры Бердніхаў**, старшыня Думы горада **Ірына Яжова**, унук Хаіма-Бера Ходаса **Барыс Астрахан**, Ганаровыя грамадзяне Іркуцка і іншыя, паведамляе прэс-служба адміністрацыі горада Іркуцка.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ". Хаім-Бер Ходас** (1897-1995) – неўрапатолаг, прафесар, аўтар падручніка нервовых хвароб для медыцынскіх ВНУ. Нарадзіўся 24 студзеня 1897 года ў мястэчку Куранец (цяпер Вілейскі раён). У 1907 годзе пераехаў з сям'ёй у Петрапаўлаўск, дзе ў 1915 годзе скончыў вучэльню. У 1916 годзе паступіў на медыцынскі факультэт Томскага ўніверсітэта. Ад 1935 года на працягу чатырох дзесяцігоддзяў ён кіраваў кафедрай нервовых хвароб Іркуцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1935 годзе абараніў доктарскую дысертацыю, стаў адным з першых дактароў навук у СССР. Заснавальнік іркуцкай неўралагічнай школы. У 1967 годзе Хаіму-Беру Ходасу прысвоілі званне "Заслужаны дзеяч навукі РСФСР". Ганаровы грамадзянін горада Іркуцка – першы пасля 1917 года. Аўтар больш за 160 навуковых прац, у тым ліку 12 манаграфій.




Фота admin.ru

Сквер імя прафесара Ходаса.

## За год абслугоўванне газавага катла падаражэла на 113%

МАЛАДЗЕЧНА

У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" звярнулася чытачка **Марына Борыс**. Штогод яе газавы кацёл абслугоўваюць спецыялісты.

Летась паслуга каштавала ў пераводзе на дэнамінаваныя грошы 20 рублёў 50 капеек. Сёлета яна значна падаражэла, каштуе 43 рублі 86 капеек.

Жанчына адзначае, што за год бензін не падаражэў, чаму тады паслугі падаражэлі на 113%.

У філіяле ВУ "Маладзечнагаз" адзначылі, што з 1 снежня 2016 года змяніўся прэйскурант цэн на паслугі, цяпер паслуга па абслугоўванні катлоў каштуе 43 рублі 86 капеек.

Нагадаем, што з 1 студзеня ўстанавілі новыя цэны і тарыфы на прыродны газ.

Дадзеныя тарыфы перыядычна індэксуюцца. Як і іншыя паслугі, іх устанаўлівае Савет Міністраў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Беларускамоўны музычны альбом Віталя Качаткова выйдзе ў Расіі

МАЛАДЗЕЧНА

Сёлета ў красавіку выйдзе чарговы музычны альбом маладзечанскага спевака і кампазітара **Віталя Качаткова**.

Выхад альбома "Быццам" запланаваны на красавік. Ужо распрацавалі вокладку для дыска.

Усе песні ў альбоме беларускія. Аўтар большасці тэкстаў **Аксана Ярашонак**. А песня "Абдымі мяне" напісана Віталем па матывах верша Янкі Купалы.

Альбом выйдзе ў маскоўскай студыі "Начное такси".

– Хачу і кажу дзякуй усім людзям, якія ўплывалі, удзельнічалі і падтрымлівалі выпуск гэтага зборніка, – кажа спявак.

**Аддзел інфармацыі.**

# Праект "Валожын без бар'ераў" запрашае ў суполку

## "Інфраструктуру трэба ствараць пры ўдзеле людзей, для якіх прызначаная"

ВАЛОЖЫН

**Ад 2015 года на Валожыншчыне дзейнічае сацыяльна значны праект "Валожын без бар'ераў", разлічаны на тры гады, пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага Саюза.**



Фота забяспечана Ганнай РЖАНЦОВАЙ.

Цяперашні Валожынскі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання, дзе па выніках праекта будзе турыстычны і інфармацыйны цэнтр.

Разам з уладамі і камунальнымі службамі ініцыятары паляпшаюць інфраструктуру горада і раёна, развіваюць безбар'ернае асяроддзе і турыстычныя магчымасці для людзей з інваліднасцю і іншых сацыяльных груп.

Цяпер праект стаў больш даступным для актыўнага ўдзелу, абмеркавання праблем. У адной з сацсетак "Укантакце" з'явілася адпаведная група "Валожын без бар'ераў". Яе мэта – згуртаваць як мага больш валожынцаў, неабыякавых людзей вакол праблемы.

Суполка разглядае такія актуальныя пытанні, як месцы для паркоўак для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, прапануе паўдзельнічаць у трэнінгах; расказвае пра тых, хто, нягледзячы на хваробы, вядзе актыўны лад жыцця. Прыводзіць прыклады, як іншыя краіны робяць асяроддзе безбар'ерным.

**– У пэўным узросце, пры пэўных умовах мы ўсе становімся ўразлівымі, а таму пытанне безбар'ернага асяроддзя становіцца надзвычай актуальным, – расказвае менеджар праекта Ірына Іванова –**

Праблема важная і для сталых людзей, і бацькоў з вазкамі. Аднак інфраструктуру неабходна ствараць пры ўдзеле людзей, для якіх прызначаная, інакш яна проста не працуе. Таму сёлета вясной пройдзе анкетаванне.

Цяпер на Валожыншчыне каля 2100 чалавек з абмежаванымі магчымасцямі.

За час існавання арганізацыі эксперты правялі паўнацэнны маніторынг даступнасці грамадскіх пабудоў у дзесяці населеных пунктах. Усяго абследаванымі 279 аб'ектаў інфраструктуры – гэта ўваходы ў будынкі, пандусы, вестыбюлі, санвузлы, пад'язныя шляхі, паркоўкі і г.д. у 66 установах і 14 аграсядзібах Валожынскага раёна. Для супрацоўнікаў Валожынскага райвыканкама, раённых камунальных службаў і ўласнікаў некаторых аграсядзібаў правялі трэнінг па змяненні ўзроўню даступнасці пабудоў. Разам з экспертамі з Беларускага таварыства інвалідаў службы займаюцца ацэнкай аб'ектаў Валожыншчыны.

У планах адаптаваць да 30 грамадскіх аб'ектаў, стварыць экалагічную сцежку ў Налібоцкай пушчы, адкрыць турыстычна-рэакрэацыйны цэнтр, у якім будзе паўнавартасна працаваць хостэл на 20 месцаў і канферэнц-зала.

**Аддзел інфармацыі.**

## Малюючы, я ўваходжу ў транс: у Вілейцы зладзілі сустрэчу з Сяргеем Гарачавым

ВІЛЕЙКА

**У краязнаўчым музеі наведнікі змаглі не толькі паглядзець карціны мастака з Любані Сяргея Гарачава, а і задаць пытанні самому творцу.**

Супрацоўнікі музея зладзілі сустрэчу з мастаком.

Пра жывапіс гаварылі пад музыку. Юныя гітарысты з ансамбля "Адэліта" пад кіраўніцтвам **Уладзіміра Лапціка** аздобілі імпрэзу сваімі нумарамі.

На сустрэчу прыйшлі сябры і родныя мастака, гараджане, якія цікавяцца жывапісам. На думку дырэктара музея **Надзеі Аўдзей**, галоўнае для кожнага творцы – гэта вучні. У Сяргея Гарачава іх шмат. Тым больш, што ён працуе настаўнікам у школе мастацтваў у Любані.

Некаторыя вучні Гарачава прыехалі на сустрэчу. Сярод іх школьнік з Любані **Міхаіл Францкевіч** з мамай. Жанчына расказала, як у свой час сын захапіўся маляваннем. Хлопчык хадзіў у школу мастацтваў займацца музыкай, але адчуў, што гэта не яго.

Міша ішоў з заняткаў музыкай і выпадкова зазірнуў у гуртох малявання да Сяргея Гарачава. Хлопчыку тут так спадабалася, што ён вырашыў застацца. Цяпер малюе ўжо некалькі год і плануе сваё жыццё звязаць з жывапісам.

– Калі я саджуся маляваць, то ўваходжу ў своеасаблівы транс, – падзяліўся з прысутнымі мастак.

На карцінах Сяргея Гарачава шмат прыроды, кветак. Ён часта ездзіць на пленэры па Вілейшчыне. Любіць маляваць стыхіі – дождж, гром, маланку.

Шмат яго работ у прыватных калекцыях: адны некаму падаравыя, іншыя кімсьці набытыя. Я малюю не для таго, каб рабіць дома склад з карцін, кажа Сяргей Гарачаў.

На некаторых творах – вясковыя сюжэты. Мастак распавёў, што неаднойчы людзі звярталіся да яго з цікавай просьбай. Прыносілі фотаздымак роднай хаты, якой ужо няма, і прасілі намаляваць копію. Такім чынам яны хочуць хаця б на карціне захаваць тую сядзібу, дзе правялі дзяцінства.

У планах мастака – пачаць ствараць вялікія палотны. Душа патрабуе прасторы, кажа ён.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Заробак інтэрнэт-маркетолага ў 1000 рублёў

1000 рублёў

1 — 25% — кватэра, інтэрнэт, прадукты
2 — 10% — самаадукацыя: курсы, кнігі
3 — 10% — вольны час: канцэрты, бары
4 — 5% — непрадбачаныя расходы: таксі
5 — 50% — адкладзеныя грошы

Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.

# Фрылансеры: як яны працуюць і колькі зарабляюць?

ВІЛЕЙКА

**Сам сабе начальнік, работнік і пенсійны фонд – так можна сказаць пра фрылансераў, прыватных спецыялістаў, якія адначасова выконваюць замовы ад розных кліентаў.**

Часта фрылансерамі становяцца прадстаўнікі творчых прафесій – фатографы, журналісты, дызайнеры, а таксама праграмісты ці перакладчыкі. Інтэрнэт дае магчымасць працаваць, не выходзячы з дому. Але пры гэтым такі работнік не мае стабільнага заробку, запісаў у працоўнай кніжцы і часта не плаціць падаткі.

Аб тым, як працуецца фрылансеру ў рэгіёне, "РГ" распавёў **Павел**, 26-гадовы спецыяліст па інтэрнэт-маркетынгу з Вілейкі.

### "Праз колькі год пенсій у Беларусі можа не быць увогуле"

– На працы па адукацыі я пратрымаўся меней за два гады адпрацоўкі, – распавядае Павел. – Перайшоў на фрыланс, бо не бачыў перспектывы ў сваёй працы інжынера.

У фрылансе малады чалавек бачыць адны плюсы.

1 Не трэба траціць час і грошы на дарогу да працы, бо працаваць можна з дому.

2 Ты сам кіруеш сваім часам і маеш вольны графік. Гэта дае магчымасць працаваць нават у вандроўках.

3 Заробляць у Паўла атрымліваецца болей, чым на былой рабоце.

Але як жа адсутнасць выплат у сацыяльныя фонды і магчымая адсутнасць пенсіі ў будучыні? Да таго ж мала хто з фрылансераў мае афіцыйнае працаўладкаванне, таму ледзь не ўсе "вольныя работнікі" падпадаюць пад новы дэкрэт аб "дармаедстве".

– Перажыванняў наконт будучыні ў мяне няма, – адказвае Павел. Да пенсіі яшчэ дажыць трэба. У сям'і ніхто не капае на мазгі наконт таго, каб я шукаў "нармальную" работу. Яны бачаць, што я зараблю ў 2-3 разы больш за іх і што праца мне падабаецца. А страху перад "дармаедствам" няма, бо фармальна я працую на фірме.

### "У інтэрнэт-маркетынгу няма мяжы заробку"

Павел будуе свой дзень такім чынам, каб на працу прыходзілася 8-9 гадзін. Заробак фрылансера з месяца на месяц адрозніваецца. У сярэднім атрымліваецца каля 1000 рублёў.

Малады чалавек заўважае, што ў яго прафесіі мяжы ў заробках няма. Амерыканскія калегі могуць зарабляць і па сто тысяч долараў у месяц. На прасторах СНД найлепшыя спецыялісты інтэрнэт-маркетынгу маюць заробкі па 2-3 тысячы долараў. Заробак залежыць ад стажу і прафесійных ведаў.

– Паколькі цяпер я часова жыву з бацькамі і толькі шукаю наймальнае жыллё, то 250 рублёў аддаю бацькам – на кватэру, прадукты, інтэрнэт, – тлумачыць Павел. – Каля 100 рублёў у месяц ідзе на курсы павышэння кваліфікацыі ці кнігі. Яшчэ каля 100 – на вольны час: канцэрты ці бары. Прыкладна 50 рулёў ідзе на іншыя дробныя расходы – напрыклад, таксі ці арэнду лыжаў.

Астатнія грошы малады чалавек захоўвае і траціць па патрэбе. Заводзіць адмысловы рахунак у банку пакуль не даводзілася, грошы збіраюцца проста на карты.

– Адкладзенымі сродкамі карыстаюся ў розных мэтах. Напрыклад, нядаўна зрабіў аперацыю на зрок, а праз месяц планую паехаць у вандроўку ў Швецыю, – дадае Павел.

### "Не ўсе фрылансеры працуюць у піжаме і па начах"

Што хаваецца пад словамі "інтэрнэт-маркетынг", у якім кампетэнтны спецыяліст можа зарабіць немалыя грошы? Павел тлумачыць, што гэта прафесія мае шмат складнікаў:

– Інтэрнэт-маркетолаг – гэта трохі праграміст, трохі маркетолаг, трохі псіхолаг. Асноўная задача – прасоўваць бізнес кліента, выкарыстоўваючы інструменты інтэрнэта. Бізнес можа быць розны: паслугі, тавары, мабільныя дадаткі, гульні. Аплата працы таксама можа выглядаць па-рознаму: часам гэта фіксаваная плата за месяц, часам працэнт ад прыбытку кліента, а бывае, і камісія ад кожнага продажу.

У фрылансераў, незалежна ад спецыялізацыі, заўсёды існуе спакуса ўвогуле не выходзіць з дому, увесь дзень хадзіць у піжаме і не заглядваць у люстэрка – калі няма відэа-перамоў з кліентамі, то не так важна, як ты выглядаеш. У гэтым плане Павел адносіць сябе да нетыповых фрылансераў.

– Я не з тых, хто працуе па начах, – кажа ён. – Прачынаюся недзе а сёмай раніцы, іду спаць каля адзінаццатай. Працую прыкладна ад 9 да 16. Потым адпачываю. Люблю выходзіць на шпацыры і займаюся спортам. Увечары яшчэ гадзінку-дзве працую і кладуся спаць.

**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 2.02 | 9.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9365 | **1,9225** |
| Еўра | 2,0881 | **2,0490** |
| Злоты, 10 | 4,8353 | **4,7438** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2113 | **3,2304** |
| Грыўня, 100 | 7,1722 | **7,1376** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 1.02 і 8.02** | | |
| Еўра | 2.0600/2.0880 | **2.0300/2.0500** |
| Долар ЗША | 1.9250/1.9400 | **1.9050/1.9230** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **1.02** | **8.02** |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,99 | 8:02 на рынку не працавалі кілбасны і малочны павільёны. |
| Сасіскі, 1 кг | 7,13 | |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,29 | |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,38** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,90 | **12,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,50 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,50 | **4,30** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,69 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **7,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,39** |
| Морква, 1 кг | 0,58 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | **1,69** |
| Лімоны, 1 кг | 2,99 | **3,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,69 | **2,10** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,69 | **2,90** |
| Гранаты, 1 кг | 3,49 | **3,62** |
| Ківі, 1 кг | 3,49 | **3,20** |
| Буракі, 1 кг | 0,45 | **0,60** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **3,80** |
| Агуркі, 1 кг | 5,90 | **4,90** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **5,90** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,49 | **2,90** |
| Вінаград, 1 кг | 3,85 | **3,70** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,39 | **1,35** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,95 | **3,10** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 8:02 на рынку не працавалі кілбасны і малочны павільёны. |
| Масла, 1 кг | 11,00 | |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | |
| Бульба, 1 кг | 0,35 | |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | - |
| Мёд, 0,5 л | 6,00 | - |

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УНИТАРНОГО ПРЕДПРИЯТИЯ
«МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»

ИЗУЧАЙТЕ ИНОСТРАННЫЕ ЯЗЫКИ!!!

АНГЛИЙСКИЙ ЯЗЫК

Для Вас:
- удобное месторасположение (в центре города)
- высококвалифицированные преподаватели
- группы не более 8 человек
- занятия 2 раза в неделю в вечернее время (по 2 академ.часа)

ЦЕНЫ, КОТОРЫЕ ВАС УДИВЯТ!

г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: 8 (0176) 70 31 15, 70 31 16, 8 (029) 635 35 74
e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by
УНП 100144204

## Намесніка старшыні Маладзечанскага райвыканкама падазраюць у перавышэнні паўнамоцтваў

МАЛАДЗЕЧНА

У Мінаблвыканкаме распавялі, што супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС і Упраўлення ўнутраных спраў аблвыканкама праводзілі праверку дзейнасці намесніка. Тады ж і з'явіліся прычыны падазраваць яго ў перавышэнні ўлады.

У Следчым камітэце Мінскай вобласці распачалі крымінальную справу па артыкуле "Перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў".

Такое злачынства караюць тэрмінам ад 3 да 10 год з канфіскацыяй маёмасці або без яе. Таксама вінаватаму могуць забараніць займаць пэўныя пасады.

Афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог** інфармацыю пацвердзіла. Аднак гаварыць пра гэту справу больш падрабязна яшчэ рана, сказала яна.

Аддзел інфармацыі.

## П'яны маладзечанец сеў за руль, каб сустрэць жонку, а сустрэў пільнага суседа, які паведаміў пра гэта ў ДАІ

МАЛАДЗЕЧНА

Вечарам 5 лютага 32-гадовы маладзечанец прыкладна ў 18:00 выпіў 100 грамаў гарэлкі.

У 22:00 успомніў, што трэба сустрэць жонку. Падумаў, што хіба ж я не даеду ад Вялікага Гасцінца, 145 да прыпынку ЗМК на сваім ВАЗе-21110?

Здаючы назад, мужчына ўехаў у прыпаркаваны побач аўтамабіль "Сітраэн-Ксантыя".

І, магчыма, з'ехаў бы з месца здарэння, але на бяду парушальніка праз двор ішоў мужчына.

Яму падалося, што кіроўца за рулём ВАЗа п'яны, і, як аказалася, не падалося.

Мужчына выклікаў ДАІ і да прыезду супрацоўнікаў трымаў парушальніка.

– За гэту актыўную грамадзянскую пазіцыю, за пільнасць і адказнасць Маладзечанскае ДАІ выказвае падзяку, – папрасіў абавязкова агучыць інспектар **Сяргей Бартош**.

Начальнік ДАІ вынес рашэнне аштрафаваць кіроўцу на 60 базавых велічынь (1380 рублёў) і пазбавіць права кіравання на тры гады і шэсць месяцаў.

Наталля ТУР.

## Прытармазіў на скрыжаванні і адчуў "та-дах" ззаду

МАЛАДЗЕЧНА

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося 6 лютага з 7:50 раніцы на вялікім кальцы – выездзе з Маладзечна ў бок Мінска.

26-гадовы кіроўца ехаў у бок сталіцы на аўтамабілі "Фіят".

Каля вялікага кальца кіроўца прытармазіў, каб прапусціць машыны, якія рухаліся па кругавым скрыжаванні.

І раптам ззаду адчуў удар.

У яго машыну ўрэзаўся аўтамабіль "Сітраэн", якім кіравала 27-гадовая маладзечанка.

Яна патлумачыла супрацоўнікам ДАІ, што так атрымалася, бо выбрала не тую дыстанцыю і не паспела затармазіць, калі сама адчула "лёгкі та-дах".

– Кіроўцу "Сітраэна" аштрафавалі на месцы, – патлумачыў інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

Наталля ТУР.

## Упраўленне Следчага камітэта правядзе прыём грамадзян

МАЛАДЗЕЧНА

16 лютага ў Маладзечанскім райвыканкаме будуць весці выязны прыём грамадзян начальнік Упраўлення Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці **Павел Ігнатаў**, начальнік УУС Мінаблвыканкама **Алег Яўсееў** і пракурор Мінскай вобласці **Алег Лаўрухін.**

Прыём будзе праходзіць у малой зале райвыканкама па адрасе: ***Віленская, 6.***

Папярэдні запіс на прыём будзе праводзіцца па тэлефоне **75-05-14** штодня да 18 гадзін.

Аддзел інфармацыі.

# Цела суседа закапалі ў двары,

## а аднавяскоўцам сказалі, што той змяніў прапіску

СМАРГОНЬ

Упраўленнем Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці завершана расследаванне крымінальнай справы па забойстве жыхара вёскі Нястанішкі Смаргонскага раёна.

Забойства адбылося позним вечарам 21 красавіка 2016 года ў адным з дамоў вёскі Нястанішкі. Кампанія з трох чалавек распівала спіртныя напоі. Раптам 58-гадовая гаспадыня кватэры, яе 30-гадовы сын і іх госць, 53-гадовы аднавяскоец, пасварыліся.

У ходзе сваркі сын і маці збілі госця, а затым задушылі. Каб схаваць злачынства, цела забітага закапалі на сваім прысядзібным участку, пасля чаго расказалі ўсім у вёсцы, што сусед выехаў, пераехаў на іншае месца жыхарства.

Аднак 16 верасня 30-гадовы мужчына, які абвінавачваецца ў забойстве, сам паведаміў у праваахоўчыя органы аб зробленым, напісаўшы яўку з павіннай.

Супрацоўнікі Следчага камітэта на прысядзібным участку на месцы, якое паказалі, сапраўды, знайшлі астанкі забітага, а таксама шэраг прадметаў, якія пацвярджаюць абставіны яго гвалтоўнай смерці.

Маці і сыну прад'яўленае абвінавачанне ў забойстве. Яны заключаныя пад варту. Раней абвінавачаны неаднаразова прыцягваўся да крымінальнай адказнасці, сталага месца працы не меў. Яго маці раней не судзімая.

Падчас расследавання гэтай крымінальнай справы, следчыя высветлілі, што ў біяграфіі абвінавачанага быў яшчэ адзін эпізод злачыннай дзейнасці. Летам 2016 года, падмануўшы свайго 63-гадовага аднавяскоўца, абвінавачаны скраў яго ровар.

Гэты транспартны сродак зламыснік пасля прадаў у Мядзельскім раёне.

З улікам гэтага мужчыну прад'яўленае абвінавачанне і ў махлярстве.

Па выніках псіхолага-псіхіятрычных экспертыз абвінавачаныя асобы знаходзяцца ў стане свядомасці і таму здольныя несці адказнасць за зробленае на агульных падставах, аднак маюць патрэбу ў прымусовым лячэнні ад алкагалізму.

Крымінальная справа перадазеная пракурорам для разгляду ў суд.


Фота komiinform.ru

Жыхар вёскі Нястанішкі разам са сваёй маці забіў аднавяскоўца і цела закапаў на сваім ўчастку.

Афіцыйны прадстаўнік УСК па Гродзенскай вобласці Сяргей ШАРШАНЕВІЧ.

## Аўтобус наехаў на жанчыну, якая ўпала каля пасажырскіх дзвярэй

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля 8 гадзін у чацвер, 2 лютага, па вуліцы Міру ў Маладзечне, піша УУС Мінаблвыканкама.

55-гадовы кіроўца пачаў ад'язджаць ад прыпынку "Аптэка" і наехаў на мясцовую жыхарку, якая ўпала каля пасажырскіх дзвярэй.

75-гадовая пенсіянерка пашкодзіла ногі, але шпіталізацыя ёй не спатрэбілася.

Па факце аварыі праводзяць праверку.

Паводле УУС Мінаблвыканкама.

## Каля чыгункі знайшлі труп 20-гадовага хлопца з адарванай рукой

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося вечарам у суботу, 4 лютага.

У Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце паступіла паведамленне ад машыніста цягніка "Полацк-Маладзечна". Ён сказаў, што каля пераезду па вуліцы Чыгуначнай у адкосе ляжыць труп.

Загінулы 20-гадовы маладзечанец Уладзіслаў С.

У маладзёна былі пранікаючыя раны галавы, а таксама траўматычная ампутацыя левай кісці.

– Прызначаныя патрэбныя экспертызы, – распавёў інспектар групы прапаганды і прафілактыкі Маладзечанскага АУСТ **Сяргей Васілеўскі.**

Зоя ХРУЦКАЯ.

## Пажар у Маладзечне: чацвярых выратавалі, аднаго не змаглі

МАЛАДЗЕЧНА

Трэцяга лютага каля шасці гадзін вечара ў маладзечанскі аддзел МНС паведамілі пра пажар на вуліцы Чыгуначнай.

Гарэла кватэра на другім паверсе двухпавярховага жылога дома.

Кватэра належала 94-гадовай пенсіянерцы. У выніку пажару загінуў яе сын, 65-гадовы пенсіянер.

Выратавальнікі эвакуявалі чатырох чалавек з суседніх кватэр.

Прычыну пажару высвятляюць.

Паводле МНС.

## Дзіця трапіла пад машыну ля свайго дома

АШМЯНЫ

Усё адбылося ў 30 метрах ад дома. 1 лютага каля 19 гадзін хлопчык пасля дадатковых заняткаў прыехаў з горада ў вёску Будзёнаўка.

З маршрутнага аўтобуса ён выйшаў на прыпынку і ззаду транспарту пабег праз праезную частку. Справа рухаўся "Форд", у крыло і лабавое шкло якога дзіця стукнулася.

Па факце ДТЗ праводзіцца праверка. Хлопчык шпіталізаваны ў хірургічнае аддзяленне бальніцы. Ступень цяжару атрыманых ім траўмаў вызначыць экспертыза.

Каб выключыць падобныя выпадкі, дарослым трэба ў чарговы раз растлумачыць дзецям элементарныя правілы бяспечных паводзін на дарогах. Нагадаць пра небяспеку раптоўнага выхаду на праезную частку з-за транспарту, неабходнасць уважліва паглядзець і налева, і направа.

Кіроўцам ж не варта выключаць магчымасць з'яўлення на іх шляху пешаходаў з-за аўтобусаў. Перад прыпынкамі лепш загадзя скідаць хуткасць.

Гродзенская ДАІ.

## Крадзеж у Астраўцы: вечарам паставіў машыну ў двары – раніцай не знайшоў двух колаў

АСТРАВЕЦ

Мужчына з Брэсцкай вобласці прыехаў на працу ў Астравец. Пасяліўся ў шматпавярхоўцы па вуліцы Усходняй. Машыну паставіў у двары, але раніцай паехаць не змог.

А справа ў тым, што на колах стаяла добрая зімовая гума. Яна і спадабалася зламыснікам.

Познім вечарам двое маладых людзей 1998 і 1999 гадоў нараджэння пайшлі "на справу". Знялі два колы, а машыну пакінулі на цаглінах.

Доўга паездзіць у зламыснікаў на чужых шынах не атрымалася. У дачыненні да іх ужо ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Крадзеж".

Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.

# Вынаходнік распавёў пра экалагічнае цяпло, драўляны гадзіннік і эканомію бензіну

МАЛАДЗЕЧНА

**Вынаходнік Сцяпан Яфімчык з Салігорска ведае, як зрабіць драўляны гадзіннік і забяспечыць кватэры і прадпрыемствы танным і экалагічна чыстым цяплом. А яшчэ сцвярджае, што можа зменшыць расход бензіну ў аўтобусах з 33 літраў да пяці.**



Сваё вынаходніцтва Сцяпан Яфімчык распрацаваў ва ўласным гаражы.

Больш падрабязна пра свае вынаходніцтвы і задумы ён расказаў "Рэгіянальнай газеце" ў Маладзечне. Сюды мужчына прыехаў з роднага Салігорска на некалькі дзён для таго, каб прэзентаваць сваё вынаходніцтва, на якое, дарэчы, ужо мае патэнт.

### Як адзіны ў свеце драўляны гадзіннік зацікаў у Салігорску

Цяга да канструявання ў Сцяпана Аляксеевіча з дзяцінства. Я на палову ляўша, расказаў мужчына. Піша ён правай рукой, а майструе левай. Такія людзі, кажа ён, своеасаблівыя і часта схільныя да нейкай творчасці, да канструявання.

Да таго ж мой субяседнік па гараскопе Авен. А гэта, па словах Сцяпана Аляксеевіча, упарты баран, чалавек, які абавязкова павінны дасягнуць сваёй мэты.

Так і здарылася, калі на пачатку 2000-х Сцяпану Аляксеевічу трапіла кніга "Другое жыццё дрэва". Там ён прачытаў, што 150 год таму майстар **Мікалай Броннікаў** зрабіў цалкам драўляны гадзіннік. Пасля яго больш ніхто гэтага не рабіў.

Гэта ідэя захапіла мужчыну. Падумалася: чаму б не паспрабаваць? Тры месяцы ён думаў і нарэшце пачаў майстраваць. Праз два гады зацікаўлены кішэнны гадзіннік. Усё ў ім было зроблена з дрэва, акрамя дзвюх невялікіх дэталяў: спружыны і воласа для маятніка.

Пасля майстар нават тэсты праводзіў: разбіраў і збіраў уласнае вынаходніцтва за дзве хвіліны. Дзе ж цяпер гэты цуда-гадзіннік? Падарыў, усміхаецца мой субяседнік.

Па словах Сцяпана Аляксеевіча, амаль заўсёды ён працуе адзін. Але магчыма ў хуткім часе дзядулю будзе дапамагаць унук **Данік**. Хлопчыку дзевяць год, і ён вельмі любіць збіраць машынкі з дэталяў канструктара.

### Рамонт аўтамабіляў падштурхнуў да вынаходніцтва

На пенсіі Сцяпан Аляксеевіч пачаў рамантаваць турбіны аўтамабіляў. У час такога рамонту ён заўважыў, што адна дэталь з турбіны грэе паветра. Тады ж і ўзнікла пытанне: а чаму б не зрабіць так, каб паветра награвала ваду? А тая б выкарыстоўвалася для абагрэву памяшканняў.

І праз пэўны час у гаражы майстра з'явіўся аэрадынамічны награвальнік паветра. Гэтая ўстаноўка выпрацоўвае недарагую і экалагічна чыстую энергію. Як жа працуе агрэгат? У ім тэмпература паветра павышае тэмпературу вады.

У барабан праз фільтр зацягваецца паветра. Там яно награваецца і награвае ваду. А потым паветра выходзіць чыстым. Чым больш яго прапускаецца праз фільтр, тым вышэйшай становіцца тэмпература вады. Мужчына падлічыў, што эканомія ў параўнанні з выдаткамі, якія ідуць на абагрэў сёння, складае 75-80 працэнтаў.

Па словах вынаходніка, з дапамогай установкі яму ўдаецца нагрэць ваду да 265 градусаў. Гэта больш, чым дзве тэмпературы кіпення. Аднак такія лічбы не патрэбны. Для ацяплення будынкаў дастаткова 80 градусаў.

Награвальнік па памерах вялікі. Калі яго выкарыстоўваць, патрэбны асобны пакой.

– Агрэгат працуе досыць гучна. Але гэту праблему можна вырашыць. Дастаткова зрабіць шумаізаляцыю. Аўтамабіль таксама шумна працуе, калі з яго глушыльнік зняць, – кажа Сцяпан Яфімчык.

На вынаходніцтва ён мае патэнт. У дакуменце пазначана, што ён аўтар і праваўладальнік аэрадынамічнага награвальніка паветра.

### І так пойдзе, гэта ж не сабе

Сёння сістэма па ацяпленні будынкаў працуе вельмі не эканамічна, перакананы Сцяпан Аляксеевіч. Там, дзе можна ўсталяваць трубы з дыяметрам 20, ставяць з дыяметрам 100 міліметраў. Атрымліваецца, што шмат вады награваецца дарма.

Мы яшчэ не навучыліся эканоміць, а грошы ў нас пад нагамі ляжаць, перакананы Сцяпан Яфімчык. Толькі мы не заўсёды хочам нахіліцца, каб падняць іх. А яшчэ, кажа ён, мы не заўсёды можам адказна ставіцца да справы. І робіць невялікі экскурс у пасляваенную гісторыю.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны завод БМВ у Германіі вызвалілі цэлі разбамбілі. Абсталяванне адтуль часткова вывезлі ў Савецкі Саюз і пачалі па аналогіі з нямецкімі аўтамабілямі рабіць свае "Масквічы".

– І што мы бачым цяпер? – пытаецца мой субяседнік, – завод БМВ, разбураны дашчэнту, змог цалкам адрадзіцца і зноў стаў вядомы сваімі аўтамабілямі на ўвесь свет. А "Масквіч" абанкруціўся і закрыўся.

Усё гэта ад таго, сцвярджае Сцяпан Аляксеевіч, што ў многіх з нас прынцып: і так добра, гэта ж не сабе. А для іншых трэба рабіць лепш, чым для сябе, сцвярджае мужчына і кажа, што нам ёсць чаму павучыцца ў немцаў.

Мае салігорскі вынаходнік яшчэ адну карысную распрацоўку. Сцяпан Яфімчык прыдумаў сілавы агрэгат для аўтобусаў МАЗ. Яны, па словах мужчыны, на 100 кіламетраў спажываюць 33 літры бензіну. Калі рухавік у аўтобусе замяніць на вынаходніцтва Яфімчыка, страты знізяцца з 33 літраў да пяці.

– Я разумею, што гэта гучыць дзіўна і многія не паверaць мне, але такая эканомія цалкам магчымая.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Фотавальтайк і кацёл на трэсках: як эканомяць энергію ў цэнтры "Надзея"

ВІЛЕЙКА

**Летась у "Надзеі" запусцілі праект "Сонечная салідарнасць з дзецьмі Чарнобыля".**

Яго арганізатары імкнуцца да стопрацэнтнага забеспячэння цэнтра ўласнай недарагой электраэнергіяй.

Ужо падрыхтаваная праектная дакументацыя на будаўніцтва фотаэлектрычнай станцыі. Арганізатары заключылі дагавор з нямецкай фірмай на пастаўку гуманітарным грузам у бліжэйшы час модуляў для станцыі з аснасткай і інвентаром.

У Германіі з пачатку 2000-х гадоў фотавальтаіка хутка развіваецца. Таму нямецкія партнёры выступяць і як кансультанты.

Запланавалі, што працаваць новая станцыя пачне ад ліпеня 2017 года. Кошт установкі каля 650 тысяч еўра. Акупіцца праект амаль за сем гадоў. Галоўныя перавагі новаўвядзення – яго экалагічнасць, аўтаномнасць і прастата ў выкарыстанні.

Па словах спецыяліста па сувязях з грамадскасцю **Тацццяны Майсак**, фотаэлектрычная станцыя, або фотавальтайк, прынясе эканамічную і фінансавую карысць дзіцячаму аздараўленчаму цэнтру "Надзея". А грошы, якія атрымаецца зэканоміць, пойдуць на тое, каб палепшыць санаторна-курортнае лячэнне і аздараўленне дзяцей. Нават пуцёўка ў "Надзею" можа стаць танней.

Фотавальтайк установяць недалёка ад Ільі, на свабоднай пляцоўцы плошчай два з паловай гектары, якую ніхто не выкарыстоўвае.

Колькасць сонечнай энергіі ў Беларусі дастатковая. Яна не такая высокая, як у некаторых краінах Афрыкі. Але амаль такая ж, як у Германіі, Японіі, Канадзе.

З самага пачатку існавання ў цэнтры эканомяць электраэнергію. Ужо ад 2004 года ў "Надзеі" цеплавая энергія выпрацоўваецца з дапамогай альтэрнатыўных крыніц.

Для гэтага ўсталявалі кацёл на дрывах, а таксама тры тэрмічныя сонечныя калектары. На працягу дзесяці гадоў дровы нарыхтоўваюць самастойна і сушаць на дрывяным складзе каля кацельні.

Два гады таму пабудавалі новую кацельню, устанавілі кацёл на трэсках. Сёння, па словах Тацццяны Майсак, самазабеспячэнне цэнтра цеплавой энергіяй стопрацэнтнае. Але гэта атрымліваецца за кошт мясцовых крыніц энергіі.

У цэлым дзякуючы наладжанай рабоце па энергазберажэнні "Надзея" ад 2003 да 2016 года знізіла энергаёмістасць паслуг у 2,6 раза. Нездарма цэнтр мае статус зоны высокай энергетычнай эфектыўнасці.

**Даведка "РГ".**
Фотавальтаіка – раздзел навукі на сумежжы фізікі, фотахіміі і электрахіміі. Раздзел вывучае ўзнікненне электрычнага току ў розных матэрыялах пад уздзеяннем сонечнага святла. Упершыню такое ўзнікненне току заўважылі ў 19 стагоддзі. У 1883 годзе ў Амерыцы стварылі першы фотаэлектрычны сонечны элемент. А ў 1905 годзе Альберт Энштэйн распрацаваў агульную тэорыю фотаэфекта, за што пазней атрымаў Нобелеўскую прэмію па фізіцы. Сама ўстаноўка па выпрацоўцы току з сонечнай энергіі называецца фотавальтайкам.

Аксана ЯРАШОНАК.



Сонечнае цяпло грэе выхаванцаў "Надзеі".

# Вучні ільянскай школы вывучалі рускую літаратуру ў тэатры

ВІЛЕЙКА

**Ці любіце вы тэатр, як любяць яго вучні ільянскай школы?**

З пачатку навучальнага года нашы старшакласнікі з'яўляюцца членамі клуба "Сяброў Новага тэатра". Для дзяцей ужо стала традыцыяй наведванне спектакляў у Мінску.

Вось і тыдзень рускай мовы і літаратуры, які праходзіў ў школе ў канцы студзеня, скончыўся паездкай на чарговае пасяджэнне клуба.

Гледачы ўбачылі фантазію на тэму п'есы Аляксандра Астроўскага "Навальніца" пад назвай "Калі б ведаць...". Рэжысёр **Сяргей Кулікоўскі** інтэрпрэтаваў твор з пункту погляду сучаснасці. Пры такім чытанні п'есы ў кожнага героя ёсць цёмныя і светлыя бакі, ёсць апраўданне ўласных учынкаў, бо кожны з іх па-свойму няшчасны.

Пытанне "ад чаго людзі не лётаюць..." і сёння ўсхвалявала нас, хоць твор быў напісаны амаль 150 гадоў таму. Яркія і вядомыя героі прымусілі цяперашніх школьнікаў задумацца над вечнымі тэмамі незапатрабаванай любові, канфліктам пачуцця і доўгу.

Пасля спектакля была размова з вядучым майстрам сцэны членам мастацкага савета тэатра **Ігарам Падлівальчавым**.

Школьнікі актыўна задавалі пытанні. Цікавіліся, як падбіралі музыку, дэкарацыі да спектакля, касцюмы герояў.

Паглядзеўшы п'есу, вучні па-новаму ўспрынялі твор школьнай праграмы, а таксама параўналі традыцыйныя тэатральныя пастаноўкі з рэжысёрскім эксперыментам, фантазіяй на тэму класікі. А некаторыя з іх пасля спектакля задумаліся пра будучую прафесію.

Позна ўвечары пакідаючы сцэны тэатра, вучні везлі з сабой новыя ўражанні, пытанні, над якімі будуць спрацаваць яшчэ доўга на ўроках літаратуры, і фотаздымкі на памяць пра сустрэчы з мастацтвам.

**Марына ЯРАШОНАК, намесніца дырэктара па вучэбнай рабоце Ільянскай сярэдняй школы імя Адама Грымаца.**

# "Учынак года-2016": Адам Мальдзіс

**Як з прафесара зрабілі "канадскага шпіёна", чаму прыпынкі ў Беларусі аб'яўляюць па-беларуску і што было чуваць пад возам па дарозе на Вільню ў 1940-я**



*Заканчэнне. Пачатак у №№3,4.*

### Тры фразы ад Мальдзіса

– Спадзяюся, што неўзабаве перанясём у Беларусь прах Скарыны. Пахаваны ён, хутчэй за ўсё, у Крумулаве – гарадку ў Маравіі, амаль на мяжы з Аўстрыяй.

– У даследаванні віляйчаніна **Анатоля Капцюга** пра паходжанне расійскага першадрукара Фёдарава з Вілейшчыны я не знайшоў ніводнай гістарычнай памылкі. Хаця пісаў архітэктар, і напісаў грунтоўна.

– Праблема з мовамі надуманая. Чым больш чалавек ведае моў, тым ён багацейшы.

### Анекдот ад прафесара Мальдзіса:

У простага беларускага мужыка гарыць гумно. Ён енчыць, схапіўшыся за галаву:

– А божачкі, а чым жа я буду дзетак карміць...

А пасля дадае:

– Але затое колькі там мышэй ляснула!

АСТРАВЕЦ

**На пытанне, чаму так важна ўплываць на падзеі, якія адбываюцца на Астравеччыне, прафесар адказвае: "Як?! Гэта ж мая радзіма. Там вырас, у школу хадзіў".**

Заканчваем публікацыю размовы з нашым знакамітым земляком.

– Мяне агітавалі ў Польшчу, ім ва ўніверсітэт для статуса трэба былі прафесары. Канешне, зарплату я атрымоўваў бы не тутэйшую. Але і мы з вамі не сустрэліся б. Я працаўнік, а не ваяўнік. І ў многіх пытаннях захоўваю нейтралітэт.

А мяне ж і канадскім шпіёнам зрабілі, хаця ні разу там не быў. Праўда, чатыры разы пралятаў, мог быць завербаваны ў паветры *(смяецца прафесар)*. А пачалося ўсё з бязглуздых жартаў. У свой час уваходзіў у вучоны савет цяперашняга ўніверсітэта культуры. І аднойчы адны хлопцы арганізавалі ансамбль "Бонда".

Прыйшлі ў Міністэрства культуры, каб зарэгістравацца. Чыноўнік кажа: "Бонда? Это что, Джэймс Бонд?" Яны прыходзяць да мяне ў цэнтр Скарыны спытацца пра слова "бонда". З дзяцінства памятаю, што бонда – круглая буханка хлеба, спечаная на кляновых лістах. І ў слоўніку мінска-маладзечанскіх гаворак было слова. Ідуць зноў у міністэрства, гавораць, Мальдзіс кажа, што бонда – буханка хлеба.

**І той ляпнуў, відаць, каб адчапіліся: "Не верце гэтаму канадскаму шпіёну". Ну, і чаму менавіта канадскаму?**

**– Ці дастаткова ацэненая ваша праца?**

– Доктарскую дысертацыю ніхто не браў пад сумненне, прафесара мне далі. Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі атрымаў яшчэ ў савецкі час. Ордэн Францішка Скарыны ўручаў Аляксандр Лукашэнка. У "Советской Белоруссии" надрукаваў матэрыялы, якія потым пайшлі ў кніжкі "Соотечественники" і "Белорусские сокровища за рубежом". Уваходжу ў дзве грамадскія камісіі Міністэрства замежных спраў.

А ўсяго 41 грамадская нагрузка ў мяне, пералічыў аднойчы, калі чытаць не было чаго.

У дзяцінстве ў нас у хаце па будных гаварылі па-беларуску, бо маці была з сялянскай сям'і, хоць і больш заможнай за бацькаву. А бацька са шляхецкай, а меў усяго два гектары зямлі. У святы гаварылі па-польску. І я пачаў па-польску весці дзённік, назваў "Пшыгоды Адася". Пісаў, куды хадзіў, што еў.

А пасля пайшоў у школу, дзе ў пасляваенны час была рускамоўная хваля, вось і я свой дзённік пачаў весці па-руску. Калі паступіў ва ўніверсітэт, то з разуменнем пачаў пісаць па-беларуску.

### Чаму "Полацкі сшытак" не зусім полацкі

Вядомы нотны рукапісны зборнік барочнай музыкі "Полацкі сшытак" на самой справе Астрамечаўскі. На арыгінале, які знаходзіцца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве, напісана "Астрамечава".

Аднойчы мы з Караткевічам пайшлі ў Саюз пісьменнікаў на канцэрт ансамбля "Кантабеле" "Музыка барока". Выконваюць творы італьянскага, французскага, польскага, рускага барока. Валодзя кажа: "Дык як гэта пераскочылі праз Беларусь, а ў нас хіба не было?" Адказваю, што я ж знайшоў сшытак у Астрамечаве. "То ідзі і скажы ім".

Я расказаў, а яны адказваюць, што хто тое Астрамечава ведае. А калі ёсць Астрамечава і каля Полацка, то лепш назваць больш вядомай назвай. Так і пайшло – "Полацкі сшытак".

### Што пад коламі дарогі да Вільні

Першыя мае рабочыя паездкі былі ў Маладзечна, абласны цэнтр. Маладзечна – мая першая грамадская школа. Тут у кулуарах пазнаёміўся з Паўлінай Мядзёлкай, бываў на сустрэчах Ермаловіча.

А ў Вільні бываў і раней. Ад бацькоўскай хаты 40 кіламетраў.

**Бацька з вечара каня запрагае, я ляжу на сене, гляджу на неба, зоркі мігцяць. Да Шумска едзеш – адчуваеш карэнні пад коламі. У Шумску пачынаецца пясок, пасля ідзе брук.**

А асфальт адчуваеш, як у Вільню ўязджаеш. Там жылі дзядзька з цёткай, у іх у двары пакідалі каня. Бацька ішоў на рынак, я браў польскую карту і па ёй ішоў па горадзе. Сёе-тое прывозіў з кнігарні.

### Якія справы свайго жыцця лічыць галоўнымі

Па-першае, што адкрыў Агінскага для Маладзечаншчыны.

Другі подзвіг адбыўся дзякуючы паездцы на канферэнцыю у Кіеў. Мяне здзівіла, што ў метро ўсё па-ўкраінску. Быў у Тбілісі – таксама прыпынкі абвяшчалі па-грузінску. У Мінску ж метро толькі стваралі.

Напісаў я ліст у ЦК КПБ, што трэба загадзя паклапаціцца, каб у метро было па-беларуску. Выклікаў нейкі чыноўнік і пытаецца, а навошта, "я ўжо сам кепска пабеларуску разумею". Адказваю, што так, генацыду ў нас не будзе, але ж тады і вашай пасады не будзе. Пытаецца, як я сабе гэта ўяўляю. Кажу, што аб'яўляюць прыпынкі па-беларуску, вось і ўсё.

Выклікае ён праз тыдзень, запрасіў кіраўніка ад метро. Думалі-думалі, у выніку вырашылі зрабіць, як у Кіеве і Тбілісі. А пасля метро пайшло і на аўтобусы, тралейбусы, прыгарадныя цягнікі.

Трэцяя добрая справа – чатыры гады барацьбы за вайсковыя могілкі Першай сусветнай у Мінску, каля майго дома. Тут жа быў Старажоўскі рынак. Караткевіч любіў на яго хадзіць, дэманстратыўна выкупляў галубоў, даваў ім волю. Ну і куды яны ляцелі? Туды ж, адкуль іх забраў прадавец.

Ужо ж было вырашана, што на гэтым месцы паставяць 12-павярховыя дамы, галоўны аргумент – што ў мінскіх архівах нічога няма пра тое, што тут месціліся могілкі. А мне адзін гісторык прынёс пяць тысяч біяграфій на пахаваных. Я надрукаваў на падставе гэтага артыкул. Што тут пачалося! Чатыры гады змагаўся. Але і дагэтуль не ўсю тэрыторыю вызвалілі. Напрыклад, адзін рэстаран стаіць напалову на касцях. Пыталіся, а чаму няма пра могілкі ў мінскіх дакументах. Мінск жа быў прыфрантавой зонай! Адсюль усё вывозілі.

А таксама важнае – выданне энцыклапедычнага даведніка "Беларускія пісьменнікі".

Паеду на Астравеччыну, але хіба там мяне не знойдуць? Надаюць нагрузак. А трэба абавязкова скончыць чатыры распачатыя кніжкі, плюс успаміны.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. (80176) **753841, 769667.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| ВІЛЕЙКА | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**


**Вечерний Бобруйск**

Вашы аб'явы па продажу ТРАНСПАРТУ прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!



Филиал «**Молодеченский государственный политехнический колледж**» учреждение образования «Республиканский институт профессионального образования»
**18 февраля 2017г.**
проводит
**"ДЕНЬ ОТКРЫТЫХ ДВЕРЕЙ"**
по адресу: ***г. Молодечно, пл. Центральная, д.2.***
Начало мероприятия **в 10.00**
УНП 601080133



**15.02.2017 года с 10.00 до 12.00**
начальник Молодечненского филиала РУП «**Минское областное агентство по государственной регистрации и земельному кадастру**»
**БОРИСЕНКО Владимир Васильевич**
проводит **«ПРЯМУЮ ЛИНИЮ»**
по тел. (8-0176) **58-07-25** УНП 600199462


## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Опель-Астра, 1999 г.в., 1,6Б, універсал, бардовы металік. Маладзечна. Т. (8-029) 7729640.
- Рэно-Кенга, 1999 г.в., 1,5 дсі на запчасткі. Т. (8-029) 3400623.*
- ФВ-Вента, 1994 г.в., дызель, механіка, седан, 5-дзверны. Т. (8-044) 7470997.*
- Чэры-Тыга, красовер, 2010 г.в., 1,8Б, 8800 руб. Т. (8-029) 5676832.*
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Газавае абсталяванне на аўто 4 пакалення, б/у, Італія, 450 руб. Т. (8-025) 6742123.
- Запчасткі б/у да Аўдзі-80 ВЗ. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/у да ФВ-Пасат ВЗ. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- Запчасткі да Опель-Асконы. Ёсць амаль усё. Т. (8-029) 2610362.*


**Купим АВТО в любом состоянии, расчёт на месте. Тел. (8029) 844 40 04**


- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Каталізатар для аўтамабіля. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- Камп'ютарная дыягностыка аўто, чып-цюнінг, аднаўленне шаравых апор, выдаленне ЕГР, сажавага фільтра, каталізатара. chipauto.by ПУП "ЛенВіРо" УНП 691505812 Т. (8-029) 3426222.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*


**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой, развал**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.



**РЕМОНТ МИКРОАВТОБУСОВ** и **малых ГРУЗОВИКОВ**



Тел. (8-029) **571 76 67**,
**г. Молодечно, за ТЦ «Модуль»**
Частное предприятие «Выбор-сервис» УНП 190794934


## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра па вул. Я Купалы ў Маладзечне; гараж у 12 кааператыве. Т. Вэлком (8-029) 6815453.*
- 2-пакаёвая кватэра, 47,9 кв. м, у Вілейцы па вул. Чапаева. Т. (8-029) 7660483.*
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Залессе; агарод, гаспадарчыя пабудовы, тэлефон. Т. Вэлком (8-029) 6125469.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Тэрмінова! Т. (8-029) 5527421.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Крынічнай, д.25. Т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- 4-пакаёвы аднапавярховы ўтульны дом 84,6 кв.м у в. Выграпаўшчына Маладзечанскага раёна, 2010 г.п., усе выгоды. На 18 сотках: сад, вадаём, гараж са склепам. Цана дагаворная. Т. (8-029) 6048021 пасля 17-00.*
- Гараж у ГБК-2, нядорага. Т. (8-029) 6842528.*
- Дом жылы ў вёсцы Порса. Т. (8-033) 3011041.
- Дом у в. Каловічы. Т. (8-033) 3501070.
- Дом у в. Каловічы (будынак былога магазіна). Т. (8-029) 7735100.
- Дом у Валожыне. Т. Вэлком (8-029) 6855410.*
- Дом у вёсцы Вялікая Боркаўшчына Маладзечанскага р-на, д.13. Т. (8-0176) 541549, (8-029) 2301956.*
- Дом у цэнтры Маладзечна, драўляны, газ, вада. Т. (8-029) 6691789.*

### КУПЛЮ

- 1-пакаёвую кватэру альбо дом у Мядзеле ці прыгарадзе. Нядорага. Т. Вэлком (8-029) 1463702.*

### ЗДАМ

- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.

### НАЙМУ

- Сям'я з 4-х чалавек нойме дом у Вілейцы на доўгі тэрмін. Т. (8-029) 6028263.

## ПАСЛУГІ



### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакалісты. Баян. Фота. Відэа. ІП Кулековіч Т.І. УНП 691292974. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- А і В студыя. Відэа і фотаздымкі вяселляў. Якасна і нядорага. ІП Далідовіч В.В. УНП 690340358. Т. (8-029) 1140234.*
- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абслугоўванне і рамонт камп'ютараў. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ.** vslobode.relax.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- Антэны спадарожнікавыя: наладка, абслугоўванне. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*
- **АРГАНІЗАЦЫЯ ВЫКАНАЕ РАБОТЫ ПА ЎСТАНОЎЦЫ ЦЁПЛЫХ АДКОСАЎ НА ВОКНЫ, ДЗВЕРЫ, А ТАКСАМА РАМОНТ ВОКНАЎ ПВХ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ. ПП "Акнаман" УНП 691515273. Т. (8-033) 3756821, (8-044) 5467328.**
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*
- Ёсць прапіска. Т. (8-029) 5606607, (8-029) 3796140.*
- Кладка, дах, фундамент, адзделка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*


**АККУМУЛЯТОРЫ**
БАТРИКС
**для автомобилей, источников питания, сигнализаций**
**ПРОДАЁМ НОВЫЕ И ПОКУПАЕМ СТАРЫЕ**
**проверка аккумуляторов с выдачей справки и протокола испытаний**
**ШИРОКИЙ ВЫБОР МАСЕЛ** моторных, гидравлических, индустриальных, смазки, реагент AdBlue разливной, антифризы, техжидкости
**ЗАПЧАСТИ К ИНОМАРКАМ**
ООО "Батрикс" УНП 691893243 Телефон в Молодечно (80176) **58-12-48**, (8029) **63-63-166** (Велком)


**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С, ЦЭГЛА, ФБС. ДАСТАЎКА.** ЧП «Бізнес-Дэталь» УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Наяўны і безнаяўны разлік, дастаўка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413 (Вэлком), (8-029) 2275708 (МТС).*

• Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Вароты з сеткі-рабіцы, памер 1,5х3,0, брамкі 1,5х1,0, арматура дыяметрам 8,10,12, сетка пад сцяжку 100х100х3, 150х150х4, 50х50х4. Т. (8-029) 6513000.*

• **ПЛІТЫ ПЕРАКРЫЦЦЯ, ПГ6-4 (ПАМЕР 6,0х1,5 м) ПА ЦАНЕ 50 РУБ ЗА 1 ШТ. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

• Сетка-рабіца ацынкаваная. Т. (8-033) 6111186.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГВУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• **БАРАНЫ І АВЕЧКІ ЖЫВОЙ ВАГОЙ, МЯСАМ.Т. (8-029) 6769359.**

• Кабан свойскі. Т. (8-029) 9304639.

• Кабан свойскі. Т. Лайф (8-025) 7634686.

• Кныр в'етнамскай віслабрухай пароды, нядорага. Т. (8-029) 6237550.*

• Козы пакрытыя (акот у сакавіку) і маладыя козачкі. Тэрмінова! Т. (8-01771) 66046, МТС (8-033) 6602965.

• Парасяты в'етнамскай пароды. Т. (8-029) 3177219.

• Свіння жывой вагой альбо мясам. Т. (8-029) 9714041.

**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

**Іншае**

• Вуглекіслотны балон. Запраўлены. Атэставаны. Т. (8-044) 7470997.*

• Дровы. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.

• Зруб з кругляка 6х4 м, выдатная якасць. Т. (8-029) 9426956, (8-029) 9426958.*

• Кацёл-печ у лазню, 390 руб. Т. (8-033) 6535349.

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Камень, шчэбень. Т. (8-029) 6260525.

• Батарэі чыгунныя б/у. Т. (8-029) 8789740.

**Бытавую тэхніку, сельгастэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

• **ПРЫЧЭП ТРАКТАРНЫ** з дакументамі. Т. (8-029) 1096721.

**Размясці сваю аб'яву не менш за ТРЫ РАЗЫ, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце Rh.by**

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• Акустычныя калонкі, узмацняльнік, ноўтбук, сістэмны блок, манітор, ЖК-тэлевізар, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5744744.***

• **АНТЫКВАРЫЯТ, МАНЕТЫ, ГАДЗІННІКІ, ФОТААПАРАТЫ, САМАВАР, ФАРФОР, БІЖУТЭРЫЮ І ІНШЫЯ СТАРАДАЎНІЯ РЭЧЫ. ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7764214.***

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Апілкі ў вялікіх аб'ёмах. Маладзечна. Т. (8-029) 5612055.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, шкуркі куніцы. Т. (8-029) 8552646.*

• Сена, салому. Т. (8-029) 6051424.*

### ЗГУБА

• Прапаў сабака (руская гончая) з чорным ашыйнікам, колер светла-карычневы (рыжы), прыблізна ў раёне вёскі Раёўка Маладзечанскага раёна. Просьба да тых, хто бачыў, паведаміць за ўзнагароду. Т. (8-029) 6363017.

## ПРАЦА

### ШУКАЮ ПРАЦУ

• Аддзелачнік: вялікі досвед, тынкоўка, шпаклёўка, шпалеры, уцяпленне, адкосы, падлога, гіпсакардон і інш. Т. (8-029) 2775694.*

• Кровельныя, аддзелачныя, зварачныя, дэмантажныя работы. Кладка блока, цэглы, сцяжкі. Электрыка. Спілоўванне дрэў. Т. (8-029) 8521268, (8-044) 7556706.

• Майстар-еўрааддзелачнік зробіць кваліфікаваны рамонт ад дробнага да "пад ключ". Т. (8-044) 5724916.*

• Шукаю працу плітачніка-абліцоўшчыка, муляра. Кладка печаў, камінаў і інш. Т. (8-0176) 751504, (8-044) 4684464.*

---

ОКНА ПВХ
ДВЕРИ
Балконные рамы
УСТАНОВКА
ОТДЕЛКА ОТКОСОВ
ГАРАНТИЯ 10 ЛЕТ
СКИДКИ -10%
8-029 756-65-86
8-029 661-58-34
ИП Тавтын А.П. УНП 691518017

---

Антенны спутниковые
• УСТАНОВКА • РЕМОНТ
АКЦИЯ! обмен
Тел. (8-029) 561-39-72
ИП Новик С.С. УНП 691398368

---

ТЕПЛИЦЫ и БЕСЕДКИ ПОЛИКАРБОНАТ
Акции! Подарки! Пенсионерам СКИДКИ!
ДОСТАВКА • МОНТАЖ • РАССРОЧКА БЕЗ %
Тел. 8(033) 373 80 20 МТС, (8029) 324 80 20 Велком agroinvest.by
ООО "Светопрозначная кровля" УНП 591001987

---

НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ МАТОВЫЕ, САТИНОВЫЕ, ГЛЯНЦЕВЫЕ
С НАМИ БЕЗОПАСНО
РАССРОЧКА НА 7 МЕСЯЦЕВ БЕЗ %
Монтаж люстры и декоративный плинтус ПВХ В ПОДАРОК
Выезд замерщика и консультация БЕСПЛАТНО
ЗИМНИЙ ЦЕНОПАД! СКИДКИ 40 % НА ЭКСКЛЮЗИВНЫЕ ПОЛОТНА!
(8029) 377 80 00 / (8033) 377 80 00
tvoipotolok.by
ЧПУП "Империя потолков" УНП 591608560

---

ДВЕРИ входные межкомнатные
ОКНА ПВХ
ВОРОТА
Гарантия производителя!
РАССРОЧКА до 12 месяцев без предоплаты
КУХНИ
ШКАФЫ-КУПЕ готовые и на заказ
МЕБЕЛЬ гостиные спальни детские прихожие
МТС (029) 283-75-22
Vel (044) 518-72-21
Частное предприятие "РайтЛайн" УНП 192583174

---

скидка до 20%
ООО «МЕГА ЛИТАС»
ПАМЯТНИКИ
От 300 руб. за надгробный комплект из гранита
Ограды, Скульптуры, Вазы, Плитка
- г. Минск - т. 8(017) 283-01-98, vel. 8(029) 605-42-25
- г. Молодечно - т. 8(01767) 3-39-74, vel. 8(044) 773-81-71
- г. Мядель - т. 8(01797) 5-05-84, vel. 8(044) 555-10-46
- г. Вилейка - т. 8(01771) 2-28-84, vel. 8(029) 605-42-24
Эл. адрес: megalitas@mail.ru

---

СПЕЦИАЛИЗИРОВАННАЯ ПРОДАЖА И РЕМОНТ
ГАРАНТИЯ ДО 3х ЛЕТ
ШВЕЙНЫЕ МАШИНЫ, ОВЕРЛОКИ,
ПАРОГЕНЕРАТОРЫ, КОМПЛЕКТУЮЩИЕ, ЗАПЧАСТИ, ИГЛЫ, НИТКИ, НОЖНИЦЫ
ИП Битель И.И. УНП 600320450
МОЛОДЕЧНО, Ф.СКОРИНЫ, 10А
(8-0176) 50-12-82, (8-029) 378-73-77

---

Двери Окна
◆ Входные ◆ Межкомнатные
◆ Скидки ◆ Рассрочка
КОЗЫРЬКИ
Замер
Доставка
Установка
Велком 8(029) 359-29-82
МТС 8(029) 559-29-82
ИП Платонов А.Н. УНП 691293503

---

ВСЕ ДЛЯ ЭКОНОМИИ ЭЛЕКТРОЭНЕРГИИ!
• Энергосберегающие блоки (датчики шума, движ.)
• Светодиодные лампы, светильники (промышленные, бытовые)
Молодечно, ул. Виленская, 42
(8-029) 626-94-28 Вел.
(8-033) 637-85-77 МТС
(8-0176) 77-84-21
Нал./безнал. расчет
ИП Малочков О.В. УНП 690460607

---

• ТРУБЫ
• уголки
• швеллеры
• арматура
• листы
• сетка рабица
ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ. РЕЗКА. Доставка
Аренда автокрана
г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а
(0176) 75-19-82
58-04-76 (факс)
(029) 196-90-23 (-43) (-53)
www.metallkontrakt.by/
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

---

КУПЛЮ
коня, КРС и др.
а также вынужденный убой. Заберу личным транспортом.
Тел. (8-044) 777-44-48
(8-029) 393-92-56
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

---

ТРЕБУЕТСЯ
наладчик-оператор
токарного станка с ЧПУ
Тел. (8-029) 333-00-00
ООО «Точка опоры» УНП 690387150

---

ТРЕБУЕТСЯ
СТАНОЧНИК
ленточно-пильного станка
Работа сдельная, вахтовым методом в пос. Гудогай.
Звонить с 9:00 до 17:00.
+375 44 512 12 32
Частное предприятие «ГудогайЛесПром» УНП 590780085

---

Требуется:
• ИНЖЕНЕР-конструктор со знанием САПР SolidWorks
• СЛЕСАРЬ-ремонтник металлорежущих станков
(8029) 333-00-00
ООО "Точка опоры" УНП 690387150

---

Металлические ДВЕРИ
■ Производство РБ
■ Готовые и под заказ
■ Улица, квартира
Рассрочка от 2 до 6 месяцев 0%
ИП Лясковский Д.О. УНП 691555400
www.vasharamka.by
(8029) 558-46-59
(8029) 647-53-20

---

В связи с открытием производства в г. Молодечно ООО «Марк Формэль» приглашает на работу
ШВЕЙ трикотажных изделий,
ТЕХНОЛОГА
☑ Сменный график работы
☑ Полный соц. пакет
☑ Дружный коллектив
☑ Комфортные условия труда
☑ Уютная и оборудованная комната для приёма пищи
☑ Доставка работников к месту работы и обратно.
Телефоны для справок:
(8-029) 604-00-74,
(8-0176) 50-56-46 - отдел кадров,
г. Молодечно, ул. Грамадовская, 47
УНП 690591512

---

МАРА
МАГАЗИН МЕБЕЛЬ
РЕЖИМ РАБОТЫ
с 1 октября по 31 марта
понедельник - пятница
10.00 – 19.00
перерыв на обед
14.00 - 15.00
суббота, воскресенье
10.00 - 15.00
БЕЗ ВЫХОДНЫХ
Молодечно, Ф.Скорины, 12
(80176) 76-32-24, 76-32-26.
ООО "Мара плюс" УНП 600058875

---

«СХУ «Бобровичи» УП «Минскоблгаз»
в связи с расширением производства, на постоянную работу ТРЕБУЮТСЯ:
☑ **Трактористы-машинисты** сельскохозяйственного производства
☑ **Электромонтёр** по ремонту и обслуживанию электрооборудования
☑ **Сторож** на молочно-товарную ферму (работа согласно графика)
☑ **Оператор машинного доения**
☑ **Подсобный рабочий**
☑ **Водитель**
☑ **Оператор по искусственному осеменению животных**
Оплата труда – сдельная, премиальная.
Контактные телефоны: (8-01772) 3 75 64, (8-029) 604 65 89.
УНП 601055699

# Прафесійнае выгаранне. Перастаньце сябе шкадаваць і навучыцеся абараняцца ад негатыву


Фота Diary.ru.

Чаяванне з сяброўкай – выдатны спосаб расслабіцца.

## 9 псіхалагічных нюансаў, пра якія варта ведаць

- ☞ У іншых нас найбольш раздражняе тое, што мы не можам дазволіць сабе. Напрыклад, калі вас раздражняюць людзі, якія спазняюцца, верагодна, вы не спазняецеся ніколі.
- ☞ Калі мы ад кагосьці залежым, то павінны быць зручнымі гэтаму чалавеку.
- ☞ Здарaецца, заходзіш у памяшканне з такой напружанай атмасферай, што ручку кінь – яна павісне ў паветры. Калі ўсе вакол злуюцца, вы таксама заражаецеся злосцю. Пасля непрыемнай размовы адчуванне, што ў вас брудныя рукі – вось і памыйце іх.
- ☞ Маеце вялікую праблему? Напішыце яе на паперы і прачытайце ўслых. Частка праблем пасля такога практыкавання падаецца проста смешнай.
- ☞ Гаварыце пра свае эмоцыі і пачуцці! Не трымайце ў сабе!
- ☞ Каб быць паспяховым, трэба абдымацца восем разоў на дзень.
- ☞ Трымайце на стале аранжавыя фрукты.
- ☞ Знайдзіце свой спосаб аднаўлення сіл – бег, лазня, музыка.
- ☞ Калі вам кепска, падумайце пра месца, дзе вам добра.

**Трэнінг, прысвечаны прафесійнаму выгаранню, арганізавала Беларуская асацыяцыя журналістаў для сваіх сяброў у Маладзечне 26 студзеня.**

Як справіцца з псіхалагічнымі нюансамі, распавяла псіхолаг гімназіі №10 Маладзечна **Таццяна Жданава**.

Праца ў нашым жыцці – галоўны пажыральнік нашага часу. Ёй мы гэта даруем, пакуль атрымліваем у адказ чаканае – заробак, задавальненне.

Аднак з часам ні задавальненне, ні нават заробак радасці не прыносяць, праца ператвараецца ў бясконца і нудна вымотваючую шэрую пляму, якую хочацца сцерці. Гэта сігнал таго, што вы атрымалі прафесійнае выгаранне.

Тыя, хто працуе ў сферы "чалавек – чалавек", найбольш схільныя да такой з'явы. Ім даводзіцца сустракацца з сітуацыямі і людзьмі, якія забіраюць шмат сіл. Гэта медыкі, настаўнікі, прадаўцы, чыноўнікі, касіры і іншыя.

### Калі на вас крычаць, скажыце "дзякуй"

Разбіраем сітуацыю. Вы сутыкаецеся з чалавекам, які на вас крычыць, прычым прадмет крыку мае да вас даволі ўскоснае дачыненне. Падумайце, які чалавек будзе на вас крычаць? Што ён павінны адчуваць?

Яшчэ з дзяцінства для нас крык – спосаб зняць напружанне. Нашы бабулі ведалі, што калі вельмі кепска, варта пайсці ў лес і накрычацца. Крык – гэта псіхалагічная зброя. Крычаць для таго, каб напужаць, націснуць, прыцягнуць увагу. Калі чалавек крычыць, ён патрабуе.

Гэта можна параўнаць з чамаданам. Станоўчыя эмоцыі мы складваем у яго акуратна, а негатыў скідваем грудай. Груда прымушае чамадан раскрыцца, нават калі гэта недарэчы. Так і з чалавека перабор негатыву выцягвае крык.

Галоўнае, што трэба зрабіць у сітуацыі, калі на вас крычаць, – не адказваць крыкам на крык. Гэта зусім не проста, таму што несвядома мы эмацыйна падстройваемся пад свайго суразмоўцу.

У выпадках, калі сутыкненне з крыкам не самая рэдкая справа ў вашай практыцы, паспрабуйце засцерагчы сябе наступным практыкаваннем.

### Тэхніка "Акварыум"

Погляд "вочы ў вочы" крыкун можа ўспрымаць як выклік. Гледзячы ў вочы, вы канцэнтруеце ўвагу на змесце слоў. Калі вам важна перажыць крык, а не разабрацца ў яго змесце, глядзіце на рот суразмоўцы і ўявіце, што гэта рыбка ў акварыуме, якая робіць смешныя рухі рыбіным роцікам.

Канцэнтравацца на крыўдным змесце вы не зможаце. Кантралюйце толькі, каб, захапіўшыся, не засмяяцца ў нязручны момант. Адпрацаваўшы такую тэхніку, вы зможаце карыстацца ёй, як бранёй.

Тое, што інтэлект, цела і эмоцыі – абсалютна розныя галіны, гэта міф. Усё ў чалавека звязанае. У псіхасаматыцы ёсць тлумачэнні для рознага болю. Напрыклад, калі баляць плечы – вы зашмат узвалілі на сябе, ногі – адчуваеце, што нетрывала трымаецеся на зямлі. Камяк у горле – калі не вымавілі штосьці, што хацелі сказаць ці нават выкрыкнуць.

Чалавека, які крычыць, варта падтрымаць, таму што найперш гэта крык аб увазе. І калі вам крычаць па рабочых момантах, і калі жонка крычыць мужу: "Калі ты нарэшце прыйдзеш дамоў своечасова!" – гэта ўсё пра ўвагу. Самае простае, чым можна дапамагчы чалавеку, які крычыць, гэта сказаць яму "дзякуй". Але падзякаваць можна толькі тады, калі вы не прынялі сказанае на сябе.

### Крыўда і злосць? Толькі вашы

Здараецца, што чалавеку трэба на кагосьці пакрычаць, каб стала лягчэй. І калі ён абраў вас – падумайце, чаму вы сталі яго ахвярай. Магчыма, у вас саміх засеў крык, якому не дазваляеце даць выхад.

Ёсць катэгорыя людзей, якім проста трэба крычаць пастаянна, і вы тут ні пры чым. Любое вашае слова яны могуць успрымаць як выклік. Сустракаюцца энергетычныя вампіры, найчасцей гэта нічым не занятыя пенсіянеры і дзеці. Заўважце, дзеці не зважаюць увагу на тое, што стаяць вельмі блізка і парушаюць асабістую прастору. А пенсіянерам важна атрымаць эмацыйнае пагладжванне.

Крыўду лічаць самай разбуральнай эмоцыяй. Вас не павіншавалі з днём нараджэння, сядзіце і злуецеся на гэтага чалавека. Але крыўда і злосць толькі вашы, і таму чалавеку да яе няма ніякай справы.

### Я прафесіянал = я працаголік?

Вашы сямейныя/дзеці/сябры ведаюць, калі ў вас дзяжурствы, камандзіроўкі, здачы і тэрміны лепш за свой асабісты расклад. Напружанай працы столькі, што часам забываеце паесці?

Што ж, гэта часам знясільвае. Усё ж дазваляйце сабе адпачыць: схадзіць на піва, манікюр, у кінатэатр ці спартзалу. Улічыце, што ляжанне на канапе так сабе адпачынак, і выведзіце сябе прагуляцца, а не займайцеся самашкадаваннем. Гэта зарадзіць вас энергіяй, а адпачываючы, парадуйцеся, што ў вас дастойная праца, якая дазваляе вам і такія маленькія радасці.

Калі вы праводзіце з дзецьмі не так шмат часу, як хацелася б, супакойцеся: важная не колькасць хвілін у адным памяшканні разам, а тое, як вы праводзіце час і як кампенсуеце затрымкі на працы. Можна быць як бы і разам цэлы вечар у розных пакоях, а можна паспець пачытаць на ноч казку.

### Як размаўляць з цяжкімі суразмоўцамі

Частка праблем у прафесійнай сферы "чалавек-чалавек" звязаная з тым, што трапляюцца цяжкія суразмоўцы. І хаця многія псіхалагічныя парады могуць быць вядомыя, ці часта мы імі карыстаемся?

Шчырая ўсмешка і ківок – гэта пераможцы ў барацьбе за давер суразмоўцы. Калі чалавек гатовы размаўляць – ён гаворыць. Калі не – гаварыце вы. І не адразу пра справу, пагаварыце "пра надвор'е", дапамажыце суразмоўцу расслабіцца. Спытайцеся, як ён дабраўся такім марозам/спёкай/ветрам/незнаёмым маршрутам. Магчыма, у яго ёсць нейкія праблемы – спытайцеся, раптам вы можаце нечым дапамагчы.

Усё роўна не ідзе на кантакт? У кожнага ў жыцці бываюць моманты, калі турбуюць зусім іншыя клопаты. Скажыце: "Я бачу, што дыялог у нас сёння не атрымліваецца. Я перазваню праз некалькі дзён". Няхай чалавек асэнсуе патрэбнае.

Дазвольце прызнаваць у сабе звычайнага чалавека, які можа штосьці не паспець, у якога ёсць права на эмоцыі. Вас усё так дастала, што хочацца вылаяцца? Выйдзіце за дзверы – і калі ласка.

Карыстайцеся жэставай абаронай, пры непрыемнай размове стаўце рукі ў замок. Так вы сябе абмяжуеце. Адна з прычын прафесійнага выгарання – мы празмерна адкрытыя для эмацыйнага знясілення. Калі вас будуць пастаянна тузаць, то хутка нічога і не застанецца.

Размаўляючы з непрыемным вам чалавекам, асэнсуйце, што змяніць яго вы не ў сілах, у сілах толькі змяніць сваё стаўленне да сітуацыі. Думайце, што, пагаварыўшы з гэтым чалавекам, вы зробіце сваю працу якасна, яе ацэняць, а вечарам дома вас будзе чакаць любімая кошка.

Падрыхтавала
Зоя ХРУЦКАЯ.

### Практыкаванне "Хто вы?"

Не палянуйцеся, вазьміце паперу і напішыце пяць слоў, якія будуць адказам на пытанне "Хто вы?". Калі закончыце, працягвайце чытаць.

На першым месцы ў вашым спісе прафесія? Віншую, гэтак жа бывае ў большасці. А далей – "мама"/"тата", "жонка"/"муж" і гэтак далей. Усё гэта вашы сацыяльныя ролі.

Звычайна тая сацыяльная роля, якую назвалі першай, займае найбольш часу. Але ваша асоба нашмат большая, чым усе сацыяльныя ролі, разам узятыя. Падумайце, колькі часу вы аддаяце сабе па-за важнымі ролямі, і колькі вам, напэўна, варта навярстаць.

### Практыкаванне "Тры жывёліны"

Давайце зробім яшчэ адно заданне. Таксама спачатку запішыце адказы на паперы, пасля пачытаеце, што гэта значыць.

Па чарзе пазначце трох любімых жывёлін і дадайце, за што вы іх любіце. Як закончыце спіс, чытайце далей.

***Расшыфроўка***

Тое, што вы паставілі на першую пазіцыю, – гэта вы "ідэальны", той вобраз, якому хочаце адпавядаць па той прычыне, якую і напісалі.

На другім месца – вы "рэальны".

Трэцяй пазіцыяй стаць тое, як вас бачаць іншыя.




ГІСТОРЫЯ ЖЫЦЦЯ

# Не было б шчасця, калі б няшчасце не дапамагло

*Каханне не спазняецца ніколі,*
*Яно заўжды прыходзіць у свой час*
*І адмярае радасці і болі*
*У дастатковай колькасці для вас.*

І з гэтымі словамі паэткі **Алы Клемянок** нельга не пагадзіцца. Бо нямала зведалі мае героі Антось і Алена і балючых, невыносных дзён, і тых, ад якіх дух займае ад шчасця.

Пазнаёміліся яны у далёкім замежжы, кожны паехаў, каб зарабіць грошай. Ён хацеў адкрыць сваю справу, але не ставала сродкаў. Бацькі дапамагчы не маглі, маці не працавала, а з бацькам у Антося адносіны не зусім складваліся добра, было шмат прэтэнзій, непаразуменняў. Бацькі ж часам таксама не заўсёды маюць рацыю, прад'яўляючы да дзяцей завышаныя патрабаванні. Ім хочацца, каб дзеці дасягнулі таго, чаго ім самім дасягнуць не ўдалося. Але ж дзеці не іх уласнасць, у дзяцей свая дарога.

Алена вырасла ў добра забяспечанай сям'і, ды толькі ў жыцці часта мяняецца ўсё так хутка, як карцінка ў калейдаскопе. Застаўшыся без сродкаў да існавання, яна прыняла рашэнне паехаць за мяжу на год, бо не магла больш жыць так, калі немагчыма звесці канцы з канцамі.

І вось тая сустрэча, лёсам наканаваная. Зусім звычайная. Ён ляцеў па справах і ў аэрапорце зайшоў перакусіць. Яго абслугоўвала дзяўчына незвычайнай прыгажосці – тоненькая, лёгкая, валасы як у Анджэлы Дэвіс, а вочы... Позірк яе вачэй запаў у душу, яны глядзелі на яго, здаецца, нават ноччу.

Дзяўчына дзіўна апранутая з нейкай незразумелай краіны, дзе ўвесь час ідуць дажджы, стала прыходзіць да яго ў сне. Сны паўтараліся. Ён не мог уцяміць, што за брыдоціна яму сніцца.

А праз два гады яны апынуліся разам на борце самалёта, які нёс іх у Беларусь. У Мінску, пакуль чакалі багаж, перакінуліся словамі і пакінулі адзін аднаму нумары тэлефонаў. Тэлефонныя раман доўжыўся некалькі месяцаў, а пасля вырашылі пажыць грамадзянскім шлюбам. У гэтым шлюбе нарадзілася дачушка Сонечка. Калі Сонечцы споўніліся тры гады, Антось з Аленай вырашылі ўзяць шлюб.

Як толькі пажаніліся, як быццам чорная кошка дарогу перабегла. Усё стала не так. Пачаліся абвінавачванні, недавер, папрокі. Яны сталі як быццам іншымі людзьмі, усялякія спробы наладзіць сямейныя адносіны заканчваліся такім скандалам, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць. Чарговае прымірэнне, калі ён купіў ёй залаты ланцужок і запрасіў у рэстаран, скончылася так, што ўсе вазы ў кватэры і талеркі былі перабітыя. Пасля гэтага пара вырашыла расстацца.

Антось пераехаў на найманую кватэру як мага далей ад яе. Толькі бедная Сонечка, якой ішоў пяты годзік, моцна плакала ад таго, што няма таты. Яна так любіла яго. Яе дзіцячыя вочкі сталі сумныя, не было больш таго смеху і нястрымнай весялосці. Дзеці, хоць і маленькія, але моцна перажываюць. Для іх такі стрэс можа ўвогуле каштаваць жыцця.

Алену ж адразу закруціў віхор знаёмстваў, запрашэнняў, і яна хутка выйшла замуж. Не адышоўшы ад аднаго шлюбу, яна мадэль тых адносінаў перанесла ў новае жыццё. А з другім чалавекам патрэбны і падыход іншы. Малады мужчына адзін тыдзень насіў яе на руках, падымаў да аблокаў, а на два кідаў чуць не ў бездань, з якой выбрацца было цяжка. Пасля і ўвогуле на доўгі час знікаў.

Антось жа жыў сваім жыццём. Ён з галавой акунуўся ў работу, ездзіў у замежныя камандзіроўкі, падымаўся па службовай лесвіцы. На выхадныя забіраў Сонечку, гуляў з ёй, вазіў у кіно, на розныя дзіцячы забавы. Дзяўчаты і маладыя жанчыны звярталі на яго ўвагу, але ён чамусьці быў зусім раўнадушным да жаночага полу. Не цешылі яго ні пасада, ні грошы, ні паездкі ў новыя і нязведаныя краіны. Сум і нясцерпны боль пасяліліся ў яго сэрцы, а ў снах зноў бачыў тыя вочы, што некалі так моцна запалі ў душу. Ён зразумеў, што кахае Алену і што толькі адна яна яму патрэбная.

Аднойчы ў чарговы раз прыехаўшы за Сонечкай, ён убачыў у вачах сваёй былой жонкі нешта такое, што дало яму сілы змагацца за сваё шчасце. Хуценька навеў, як кажуць, спраўкі, і ў той дзень, калі мужа Алены не было ў чарговы раз дома, запрасіў у кавярню. Тая, да яго здзіўлення, адразу пагадзілася.

З гэтай кавярні пачуўся адлік іх новы адносін. Мусіць, сапраўднае каханне заўсёды праходзіць праверку на трываласць. І калі, прайшоўшы праз выпрабаванні, яно не знікла, то лёс адорыць цябе нябачаным шчасцем.

Гэта гісторыя рэальная. У маіх герояў нарадзілася яшчэ двое дзетак. Яны часта ўзгадваюць, што не было б шчасця, калі б няшчасце не дапамагло. Цяпер Антось і Алена ў радасных клопатах, бо Сонечку трэба замуж выдаць.

Марыя БЕРАСНЕВА.

## Разумею, адкуль тут столькі беларускіх паэтаў і бардаў: Зміцер Бартосік наведаў Вілейку

ВІЛЕЙКА

**Як новая кніга журналіста і барда Змітра Бартосіка звязаная з Вілейшчынай, творца распавёў на нядаўняй сустрэчы з жыхарамі горада.**




**Зміцер Бартосік расказаў віляйчанам пра сваю новую кнігу.**

Вілейка, па словах журналіста, не чужая яму. Упершыню Зміцер быў у горадзе ў 2001 годзе. Тады выступаў у зале Палаца культуры. І народу была – поўная зала.

Цяпер жа на сустрэчу людзей прыйшло менш, чалавек трыццаць. Былі і моладзь, і людзі сталага ўзросту. Слухалі мяне ўважліва, калі трэба было смяяцца, смяяліся, пажартаваў Бартосік.

На сустрэчы Зміцер і паэт **Усевалад Сцебурака**, дзяцінства якога прайшло ў Вілейцы, расказалі пра новую кнігу Бартосіка "Быў у пана верабейка гаварушчы". Кніга – гэта своеасаблівыя падарожныя нататкі.

Зміцер Бартосік, рыхтуючы радыёпраграму "Падарожжы Свабоды", пабываў прыкладна ў 500 вёсках Беларусі. Вілейшчына паказаная ў кнізе вёскамі Суднікі, Навасёлкі, Сакалоўка і Касцяневічы.

– Ёсць такія вёскі, – распавёў Зміцер, – якія вельмі ўражваюць і запамінаюцца надоўга.

Да такіх, па словах журналіста, адносяцца Суднікі, што на Вілейшчыне. Гэта вёска "зачапіла" Змітра не столькі ваеннай, як пасляваеннай гісторыяй. Запомнілася, што ў 1945-1946 гадах там яшчэ напоўніцу ішла "вайна пасля вайны". Гучала страляніна, па лясах хаваліся банды, людзі, якія не хацелі ісці служыць у савецкую армію, выступалі супраць саветаў. Прычым гэта быў не адзін чалавек, не два, а цэлыя атрады.

– Як прыгадаеш, якім антысавецкім кутком была Вілейшчына, адразу разумееш, адкуль тут столькі беларускіх пісьменнікаў і бардаў.

Зміцер Бартосік узгадаў ільнянца, краязнаўцу і пісьменніка **Уладзіміра Кажамяку**. Менавіта ён адкрыў у свой час для журналіста цікавыя вілейскія вёскі, і Суднікі ў тым ліку. З Вілейшчынай для Змітра звязаныя і яго сябры Усевалад Сцебурака, бард і паэт **Алесь Наркевіч**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Праект аднаўлення Будслаўскага касцёла павінны стаць агульнанацыянальным

МЯДЗЕЛ

На рэстаўрацыю Нацыянальнага санктуарыя Божай Маці ў Будславе ў Мядзельскім раёне сабраны амаль 61 мільён недамінаваных рублёў прыватных ахвяраванняў, паведаміў намеснік старшыні савета Беларускага фонду культуры **Тадэвуш Стружэцкі** 7 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску, прысвечанай 30-годдзю фонду.

Гэтыя грошы сабраныя, у асноўным, у Чырвоным, Кафедральным і Будслаўскім касцёлах. Стружэцкі адзначыў, што калі б да гэтых трох касцёлаў далучыліся 350 астатніх, дзе праводзіліся службы, прысвечаныя Будславу, то "сума была б у некалькі дзясяткаў разоў большая", паведамляюць naviny.by.

Акцыя па зборы сродкаў для аднаўлення храма была абвешчаная яшчэ ў 2015 годзе, нагадаў дзеяч культуры. На яго думку, для рэстаўрацыі патрэбныя вельмі вялікія сродкі, таму сэнс акцыі – прыцягнуць увагу грамадскасці да нацыянальнай святыні.

"Па-першае, патрабуюцца тэрміновыя даследаванні з удзелам дасведчаных спецыялістаў і рэстаўрацыя старажытнага драўлянага алтара эпохі ранняга барока, створанага ў 1643-1651 гадах. Ён унікальны не толькі для Беларусі, ён не мае аналагаў у сакральнай архітэктуры Літвы і Польшчы. Таксама патрабуюць рэстаўрацыі сам абраз Маці Божай Будслаўскай і фрэскі ў бакавых абсідах алтара галоўнага будынка храма, а таксама унікальны арган касцёла", – паведаміў ён.

Паводле naviny.by.

# Тайны турэмнага замка ў Вілейцы

**160 год таму ў Вілейцы асвяцілі будынак турэмнага замка, першай каменнай пабудовы ў горадзе.**


Вілейская турма, 1930-я гады.

Фота забяспечанае Вілейскім краязнаўчым музеем.

Да гэтага часу сярод многіх віляйчан бытуе прыгожая легенда, што пасля таго, як у 1795 годзе па ўказе расійскай імператрыцы **Кацярыны II** Вілейка стала павятовым горадам, то неўзабаве яна прыехала сюды, пасадзіла першае дрэўца ў гарадскім парку і залажыла першы камень у падмурак будучага астрога.

На самой справе абставіны ўзвядзення гэтага архітэктурнага збудавання зусім іншыя.

## Кожнаму павятоваму гораду – па вязніцы

30 ліпеня 1846 года імператар **Мікалай I** зацвердзіў праект будаўніцтва турэмных замкаў на 100 арыштантаў у павятовых гарадах. 2 лютага 1848 года ў Віленскай губерні нават быў устаноўлены спецыяльны земскі збор на 12 гадоў на ўстройства будынкаў дзяржаўных устаноў і турмаў.

Неабходнасць пабудовы новай турмы ў Вілейцы была выкліканая яшчэ і тым, што стары драўляны будынак астрога прыйшоў у пагрозліва аварыйны стан, не паддаваўся ўжо рамонту і не мог забяспечыць надзейнай аховы сядзельцаў.

Быў зроблены праект на будаўніцтва і складзены каштарыс на 49610 рублёў 17 капеек серабром. Пазней гэту суму зменшылі да 45 232 рублёў 83 капеек.

## Навабуд на вуліцы Нароцкай

Месца для новай турмы было абранае на той момант падыходнае, высокі пагорак на заходняй ускраіне горада былой Нароцкай вуліцы (цяпер – вуліца 1 Мая). Будаўніцтва каменнага турэмнага замка пачалося 16 красавіка 1854 года і ішло на працягу трох летніх перыядаў.

Вядзенне будоўлі было аддадзенае з таргоў у аптовы падрад віленскаму 1-й гільдыі купцу **Хаіму Англіну**. Праз год ён памёр, і закончыць работы была вымушаная залогадавальніца, паверанная калежская дарадца **Юзэфа Шкульцецкая**. Яна з гонарам выканала ўскладзеную на яе місію, і 1 кастрычніка 1856 года будаўніцтва турэмнага замка было закончанае.

Перш чым засяляць арыштантаў, вырашылі асвяціць новы будынак. Адбылося гэта 15 (27) студзеня 1857 года. Хутка ў астрозе з'явіліся і першыя арыштанты.

Прыгожы двухпавярховы будынак з дзвюма вежамі па краях, акружаны каменнай сцяной, уяўляў цэласны архітэктурны ансамбль. На турэмнай тэрыторыі размяшчаліся кватэра наглядчыка, лазня, лядоўня. У падвальных памяшканнях астрога знаходзіліся пральня, гаўптвахта, кватэра вартаўнікоў, кладоўкі, ванна, кухня, пякарня, пакой для прыёму арыштантаў. На першым паверсе месцілася шэсць адзіночных камер, восем камер для зняволеных па судовым прыгаворы малаважных злачынцаў з дваран і простых людзей, перасыльных арыштантаў, а таксама лазарэт. На другім паверсе размяшчаліся ідэнтычныя першаму паверху камеры для арыштантаў жаночага полу, лазарэт і аптэка.

У пачатку чэрвеня 1857 года ў Вілейку прыплыла навуковая экспедыцыя па рацэ Вілія. Вось як занатаваў свае першыя ўражанні яе кіраўнік граф **Канстанцін Тышкевіч**: "...Пасля гандлёвых, людных і шумных, прыстаняў, пачынаецца іншая Вілія: самотная, панурая з нізкімі пустэльнымі берагамі. Нечакана па-над берагавой лініяй, на ўзгорку, з'яўляецца нейкі белы аб'ект, які з гэтага моманту ўжо не знікае з нашых вачэй, нават калі мы мяняем накірунак. І чым бліжэй мы падплываем, тым ясней бачым, што белая кропка – гэта новая пабудаваная вілейская турма, адзіная каменная пабудова ў гэтым горадзе".

У 1964 годзе турма ў Вілейцы перастала існаваць, у будынку, пасля надоўгага рамонту, размясціўся анкалагічны дыспансер.


Асвячэнне мемарыяльнага каменя на помніку загінулым вязням вілейскай турмы, май 1995 г.

Фота забяспечанае Вілейскім краязнаўчым музеем.

## Тыраны, ка́ты і ахвяры

За сваю 100-гадовую гісторыю праз змрочныя казематы вілейскай турмы прайшлі сотні тысяч падследных і зняволеных, тут разыгрываліся чалавечыя драмы і трагедыі.

**За ўсю гісторыю турма бачыла нямала і вядомых асоб. Паэты Валянцін Таўлай, Алесь Дубровіч, Андрэй Капуцкі, Ганна Новік адбывалі тут розныя тэрміны пакарання за актыўны ўдзел у падпольным руху Заходняй Беларусі.**

Менавіта тут, у турэмных сценах, Валянцін Таўлай пачаў пісаць сваю паэму "Мы аптымісты".

Сумны і трагічны след пакінуў у нашай гісторыі перыяд сталінскага аўтарытарнага рэжыму. Адразу ж пасля ўступлення Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь пачаліся палітычныя рэпрэсіі ў адносінах да "контррэвалюцыйных, антысавецкіх, нацыяналістычных элементаў". Турэмных камер не хапала, і зняволеных размяшчалі проста ў двары. 6 кастрычніка 1939 года быў арыштаваны і 13 жудасных месяцаў правёў у вілейскай турме **Аляксандр Уласаў**, першы рэдактар першай беларускай газеты "Наша ніва", а таксама "Сахі", "Лучынкі" і іншых выданняў.

Далей свае крывавыя і больш маштабныя справы працягвалі фашысты. Турэмны двор стаў месцам масавага знішчэння ваеннапалонных, партызан, падпольшчыкаў і мірных жыхароў. Па падазрэнні ў сувязі з партызанамі два тыдні ў вілейскай турме правёў **Барыс Кіт** – сусветна вядомы вучоны. Ён быў сведкам, як кожны дзень фашысты вывозілі на расстрэл вязняў турмы.

Сёння цяжка канстатаваць і рабіць канчатковыя высновы, ахвярамі чыіх рук сталі ў розныя часы ні ў чым не вінаватыя вязні вілейскай турмы, для многіх з якіх турэмны двор стаў апошнім жыццёвым прытулкам.

## Помнік ахвярам турмы

У 1995 годзе на гарадскіх могілках "Лясныя", непадалёку ад уваходу, устаноўлены вялікі драўляны крыж, а побач – камень-валун, на якім высечаныя словы: "Ратуй нас, Хрысце, лёсу пакутнікаў, замучаных і расстраляных у турме Вілейскай за час існавання яе. Дабраслаў, Божа, душы палеглых айцоў, братоў і сясцёр нашых, імён якіх пакуль не ведаем".

Гэтым, напэўна, пастаўленая апошняя кропка ў гісторыі вілейскай турмы.


**Вольга КОЛАСАВА,** старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.

---

**10 ЛЮТАГА**

**100 гадоў** з дня нараджэння **Аляксея Бацяна** (1917), савецкага разведчыка, Героя Расіі. Нарадзіўся ў вёсцы Чартавічы на Валожыншчыне. Унёс вялікі уклад у выратаванне Кракава ад знішчэння нямецкімі войскамі. Менавіта ён арганізаваў узрыў склада боепрыпасаў, што выратавала горад ад затаплення і знішчэння. Чалавек-легенда і адзін з нямногіх, хто цяпер жыве і хто змагаўся на працягу ўсёй вайны – ад 1 верасня 1939 да 9 мая 1945 года. Прататып героя фільма "Маёр Віхр".

**135 гадоў** з дня нараджэння **Франца Умястоўскага** (1882–1940), беларускага пісьменніка. Яго жонкай была Гелена Дунін-Марцінкевіч. Стрыечным братам – Францішак Аляхновіч.

**10-13 ЛЮТАГА**

**90 гадоў** назад (1927) у Мінску адбыўся Другі Усебеларускі краязнаўчы з'езд.

**11 ЛЮТАГА**

**210 гадоў** з дня нараджэння **Напалеона Орды** (1807 – 1883), беларускага мастака, кампазітара, піяніста, скульптара. Да нашых дзён дайшло 1060 малюнкаў мастака, якія пераважна захоўваюцца ў музеях Польшчы і Украіны. У Беларусі зрабіў каля 200 замалёвак. Асобую ўвагу ўдзяліў адлюстраванню маёнткаў і памятных мясцін, звязаных з імёнамі Адама Міцкевіча, Станіслава Манюшкі, Уладзіслава Сыракомлі, інш. Сярод мастакоўскіх прац ёсць "Валожынскі палац", "Крэўскі замак", "Гродна". Адна з работ, выява Нясвіжскага замка Радзівілаў, была адлюстраваная на беларускай банкноце ў 100 000 рублёў. Як кампазітар стварыў больш за 20 паланэзаў, мазурак, вальсаў, накцюрнаў, полек, серэнад, а таксама рамансаў і песень на словы Адама Плуга. Яго творы гучалі са сцен Францыі, Германіі, Польшчы, Расіі. Творчым і жыццёвым крэда мастака былі словы: "Хто хоць жменькай зямлю носіць, той зможа насыпаць гару".

**13 ЛЮТАГА**

**105 гадоў** з дня нараджэння **Уладзіміра Карпава** (1912 – 1977), беларускага пісьменніка, літаратурнага крытыка. Напісаў раманы "За годам год" (1957), "Вясеннія ліўні" (1961), "Нямігі крывавыя берагі" (1962), "Сотая маладосць" (1971).

**14 ЛЮТАГА**

**110 гадоў** з дня нараджэння **Алеся Звонака** (Пятра Барысавіча) (1907 – 1996), беларускага паэта, драматурга.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ТЭМА НУМАРА

# "Міма такіх пысак прайсці немагчыма!"

## Як вілейскія валанцёры дапамагаюць катам і сабакам знайсці новы дом

ВІЛЕЙКА

**Навіна аб тым, што ў Вілейцы з'явіўся прытулак для бадзяжных жывёл, на слыху ў віляйчан.**

Напатканая на цэнтральнай плошчы жанчына з дзіцячым вазком паказвае рукой у бок вуліцы Партызанскай: прытулак недзе там, у дварах. Сама яна там не была, але аб прытулку ведае. А вось наступныя два мінакі аб ім не чулі і самі задаюць пытанні.

Прытулак пад працоўнай назвай "Хачу дамоў" існуе з кастрычніка мінулага года і ўжо мае чым пахваліцца: за гэты час новы дом знайшлі 29 катоў і 7 сабак.

### "Арганізуем прытулак? Давай!"

Валанцёры ахвотна паказваюць сваіх гадаванцаў і сам будынак. У двух маленькіх пакоях месціцца ўсё, што неабходна катам: міскі з кормам і малаком, домікі і каробкі для сну, абагравальнік, латок. Адзінае, чаго не хапае для паўнаты кацінага шчасця, – свайго гаспадара, які б іх любіў.

– Ідэя арганізаваць прытулак прыйшла проста: сяброўка займаецца катамі і сабакамі ў Маладзечне, я ёй дапамагаю, – распавядае **Павел Хаванскі**, заснавальнік прытулку. – Пасля падумаў, што ў нас для гэтага і ў Вілейцы ёсць памяшканне. Кажу ёй: давай у нас зробім прытулак! Яна адказала: крута, давай! Прыехала, мы разам паглядзелі месца і пачалі шукаць валанцёраў у сацсетках.

**Неабыякавых людзей у Вілейцы аказалася шмат. Цяпер прытулку дапамагае каля 12 валанцёраў, пераважная большасць з іх – дзяўчаты.**

**Настасся Збераноўская** даведалася аб прытулку з сацсетак і не змагла прайсці міма.

– У мяне самой дома жывуць два каты, і вулічных пастаянна падкормліваю, – кажа дзяўчына. – Таму прыйшлі разам з сястрой, агледзеліся і вырашылі, што зможам сюды прыходзіць. Спачатку думалі толькі ежу прыносіць, але пасля я ўцягнулася. Цяпер прыходжу рэгулярна, каб пачысціць латкі, наліць малака, пагладзіць коцікаў, праверыць жывоцікі-лапкі. Калі бачым, што з нейкай жывёлінкай ёсць праблемы, усе разам абмяркоўваем, што рабіць далей.

### Узяць восем шчанюкоў дадому – не прабема!

Ёсць у прытулку і свой "сямейны атрад" – **Васіль і Аксана Чыжыкавы-Кузьміны**. Яны настолькі пранікліся праблемамі бадзяжных жывёл, што прынеслі ў прытулак свой абагравальнік. Без яго кацянятам нашмат цяжэй было б перажыць маразы ў -32 градусы.

– Мы даведаліся аб прытулку перад новым годам з сацсетак, дзе пабачылі фота коцікаў, – узгадвае Аксана. – Я вельмі здзівілася і ўсцешылася адначасова, нават ледзь слязу не пусціла: няўжо ў нас у Вілейцы ёсць такая добрая ініцыятыва? І мы прыйшлі валанцёрамі.

Муж з жонкай ужо некалькі месяцаў наведваюцца ў прытулак і нават маюць сваю "спецыялізацыю" – займаюцца шчанюкамі.

Пачалося гэта з канца снежня, калі ў мікрараёне Шанхай ў падвале аднаго з дамоў сучка нарадзіла шчанят. Жыхары дома былі супраць такога суседства і выкінулі сабачую сям'ю на вуліцу, збіраючыся выклікаць супрацоўнікаў ЖКГ.

**– І што было рабіць? Я вырашыла, што трэба дапамагаць! У мяне якраз была вольная летняя кухня, таму сабак забрала сабе.**

Вось дагэтуль з імі гуляемся, – усміхаецца Аксана, паказваючы на двух шчанюкоў, якім пакуль не атрымалася знайсці новую сям'ю.

Валанцёры кажуць, што не паспяваюць "прыкіпець" да гадаванцаў і лёгка аддаюць іх новым людзям. Тым больш калі бачаць, што жывёла трапляе ў добрыя рукі.

– Мы заўсёды цікавімся сям'ёй, у якую аддаём ката ці сабаку, – заўважае валанцёрка. – Пасля сочым за лёсам жывёлы. Абавязкова даём свае кантакты – каб звязваліся з намі, калі раптам узнікнуць праблемы. З новымі гаспадарамі кантактуем у сацсетках ці па тэлефоне. Яны пішуць, як назвалі новых сяброў, як з імі жывецца.

Валанцёры ўжо крыху авалодалі ветэрынарнымі навыкамі. Падчас размовы Васіль і Аксана спрытна ў чатыры рукі перавязваюць лапу чорна-белай котцы Мілцы. Котку жартаўліва называюць баявой – пасля бойкі з сабакам ёй нават хацелі ампутаваць пашкоджаную лапку. Але абышлося без аперацыі, і чатырохлапая Мілка ўжо чакае новых гаспадароў.

Без прафесійнай ветэрынарнай дапамогі ўсё ж не абыходзіцца. Часам даводзіцца звяртацца па кансультацыю праз тэлефон, часам трэба несці жывёлу да доктара.

– Раз ёсць магчымасць, хацелі б праз газету падзякаваць вілейскаму ветэрынару **Уладзіміру Качкану**, – дадаюць валанцёры. – Ён нас бясплатна кансультуе і вельмі дапамагае.

### "Хочацца, каб аб прытулку ведала як мага больш людзей"

Аксана паказвае вялікую кардонную каробку з надпісам "Прытулак "Хачу дамоў". Кожную нядзелю валанцёры садзяць у яе сваіх гадаванцаў і выходзяць на вілейскі рынак. Гэта магчымасць і аддаць жывёл у добрыя рукі, і заявіць аб існаванні прытулку.

**Не ўсе бяруць жывёлак, але ўсе падыходзяць. Міма такіх пысак прайсці немагчыма! – кажа Аксана. – Мінулым разам нам на рынак прынеслі вялікі пачак корму, мяса, давалі грошы. Мы вельмі ўдзячныя ўсім!**

У прытулку кажуць, што віляйчане – людзі добрыя і чулыя да праблем жывёл. Ледзь не кожны мае сваю гісторыю пра дваровага ката, якога пастаянна падкормлівае. Але ёсць і тыя, хто пры дапамозе прытулку хоча пазбавіцца ад уласных клопатаў: своечасова не стэрылізавалі котку, а пасля кацянят падкідваюць у прытулак.

На пытанне, чаму свой вольны час цягне прысвяціць чатырохлапым, Васіль адказвае каротка:

– Шкада іх. Без нас прападуць.

– Да таго ж хочацца даць добры прыклад дзецям, – дадае Аксана. – Сярод валанцёраў шмат школьнікаў. Хай бачаць, што, нягледзячы на розны ўзрост, мы разам робім адну важную справу.

У будучыню прытулку валанцёры глядзяць упэўнена.

– Я перакананы, што ён не знікне, – кажа Павел. – Ёсць запатрабаванасць, ёсць зацікаўленасць людзей. Вясной збіраемся зрабіць вальер для сабак, падрамантаваць будынак. Так што прытулак будзе жыць.



Фота Аляксандры Парахні.

У прытулку ёсць коцікі і сабачкі.



**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com

## Чым вы можаце дапамагчы прытулку?

Самае неабходнае і важнае, што вы можаце прапанаваць гадаванцам, – гэта, вядома, сваю любоў, пяшчоту і новую сям'ю.

Калі ж прыняць пухнатага сябра няма магчымасці, то дапамагчы можна справай: у прытулку заўсёды рады новым валанцёрам.

Сюды можна прыносіць ежу – мяса, рыбу, сухі корм. У матэрыялах для ўцяплення будынка патрэбы ўжо няма. Валанцёры кажуць, што з дапамогай неабыякавых віляйчан ужо назбіралі неабходнае.

Асаблівa ўдзячныя ў прытулку будуць за пераноскі для катоў і сабак. З імі лягчэй хадзіць на рынак і да ветэрынара.

Таксама заўсёды трэба грошы – на іх набываюць лекі, стэрылізуюць жывёл, утрымліваюць будынак, у якім месціцца прытулак. Грошы можна і перадаваць наяўнымі, і пераводзіць на адмысловы банкаўскі рахунак: Беларусбанк, 9112000160693632, дзейсны да12/21.

Калі мы не можам даць нумар рахунка, то так: Грошы можна і перадаваць наяўнымі, і пераводзіць на адмысловы банкаўскі рахунак, нумар якога можна ўдакладніць у валанцёраў.

Справаздачы за кожны патрачаны рубель валанцёры выкладваюць на сваіх старонках у сацсетках.

**Па агульных пытаннях можна звяртацца да Паўла Хаванскага (8029 567 50 70), пытанні па шчанюках можна накіроўваць Аксане Чыжыкавай-Кузьміной (8029 761-86-83).**

# Змяненні ў курсіраванні цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін

""Мінскае аддзяленне беларускай чыгункі"
станцыя Маладзечна УНП 600199541




**14, 15, 16, 17, 18, 19, 20 лютага**

У сувязі з работамі на пуцях на ўчастку
**УША - МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**17:27**
прыбудзе ў ...**17:37**

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**21:06**
прыбудзе ў ...**21:24**

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**22:28**
прыбудзе ў ...**22:36**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ...**16:21**
адправіцца ў ...**16:33**
прыбудзе на ст. **Маладзечна** ў ...**18:30**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ...**17:35**
адправіцца ў ...**17:40**
прыбудзе на ст. **Маладзечна** ў ...**19:43**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ...**18:15**
адправіцца ў ...**18:51**
прыбудзе на ст. **Маладзечна** ў ...**20:40**

**14, 15, 16 лютага**

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША-МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

адпраўленнем да ст. **Мінск** ...**13:02**
прыбыццём на ст. **Маладзечна** ...**13:18**
**адмяняюцца**

назначаюцца ў шляхі зносін
**МІНСК-ПАС. – АЛЁХНАВІЧЫ - МІНСК-ПАС.**
адпраўленнем са ст. **Алёхнавічы** ў ...**13:23**

**14, 15, 16, 17, 18, 19, 20 лютага**

адпраўленнем да ст. **Мінск** у ...**17:55**
**адмяняецца**

назначаецца ў шляхі зносін
**АЛЁХНАВІЧЫ - МІНСК-ПАС.**
адпраўленнем са ст. **Алёхнавічы** ў ...**18:34**

**15, 16, 17, 18, 19, 20, 21 лютага**

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША-МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

прыбыццём на ст. **Маладзечна ў** ...**07:08**
**адмяняецца**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна ў** ...**05:42**
адправіцца ў ...**05:35**
**/раней, чым па графіку/**
прыбудзе на ст. **Мінск у** ...**07:29**

прыбыццём на ст. **Маладзечна ў** ...**06:10**
прыбудзе ў ...**06:27**

прыбыццём на ст. **Маладзечна ў** ...**08:16**
прыбудзе ў ...**08:28**

прыбыццём на ст. **Маладзечна ў** ...**09:12**
прыбудзе ў ...**09:29**

**17, 18, 19 лютага**

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША-МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ...**09:50**
адправіцца ў ...**10:01**
прыбудзе на ст. **Маладзечна** ў ...**12:07**

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**14:35**
прыбудзе ў ...**14:39**

**18, 19 лютага**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ...**22:16**
адправіцца ў ...**22:34**
прыбудзе на ст. Маладзечна ў ...**00:26**

**17, 18, 19, 20, 21 лютага**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў ...**13:02**
адправіцца ў ...**12:44**
**/раней, чым па графіку/**
прыбудзе на ст. **Мінск** у ...**14:33**

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**13:18**
прыбудзе ў ...**13:36**

**15, 16, 17, 18, 19, 20, 21 лютага**

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША-МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў ...**6:25**
адправіцца ў ...**6:37**
прыбыццём на ст. **Гудагай** у ...**7:53**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў ...**8:28**
адправіцца ў ...**8:39**

**14, 15, 16, 17, 18, 19, 20, 21 лютага**

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША - МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа:

адпраўленнем да ст. **Мінск** у ...**8:59**
**адмяняецца**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў ...**9:58**
адправіцца ў ...**9:48**
**/раней, чым па графіку/**
прыбудзе на ст. **Мінск** у ...**11:35**

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**10:36**
прыбудзе ў ...**10:40**
прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**11:36**
прыбудзе ў ...**11:41**

адпраўленнем са ст. **Мінск** у ...**14:40**
адправіцца ў ...**14:15**
**/раней, чым па графіку/**
прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**16:24**
прыбудзе ў ...**16:02**

**14, 15, 16, 17, 18, 19, 20 лютага**

У сувязі з рамонтнымі работамі на ўчастку
**УША-МАЛАДЗЕЧНА**
цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа

адпраўленнем да ст. **Мінск** у... **20:54, 22:17**
**адмяняюцца**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў ...**19:08**
адправіцца ў ...**18:31**
**/раней, чым па графіку/**
прыбудзе на ст. **Мінск** у ...**20:26**

**назначаецца ў шляхі зносін**
**МАЛАДЗЕЧНА - МІНСК**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў ...**21:44**
прыбыццём на ст. **Мінск** у ...**23:22**
...
адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў ...**19:48**
прыбудзе на ст. **Мінск** у ...**21:35**

**18, 19 лютага**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў ...**8:28**
адправіцца ў ...**8:39**
прыбыццём на ст. **Гудагай** у ...**10:39**

адпраўленнем са ст. **Маладзечна** ў ...**13:40**
адправіцца ў ...**13:48**

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**12:21**
прыбудзе ў ...**12:32**

прыбыццём на ст. **Маладзечна** ў ...**17:19**
прыбудзе ў ...**17:25**

## Як выцінанка трапіла з Кітая ў Беларусь, можна даведацца ў Вілейскім краязнаўчым музеі

ВІЛЕЙКА

14 лютага а 15 гадзіне ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча адкрыюць выставу "Выцінанка". Гэта будзе сумесны праект краязнаўчага музея і Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага.

Па словах дырэктара музея **Надзеі Аўдзей**, гісторыя выцінанкі звязаная з вынаходніцтвам паперы ў старажытным Кітаі.

На Беларусь выцінанка прыходзіць у выглядзе фіранак. У 19 стагоддзі ў інтэр'еры з'яўляюцца карункі з белай, чорнай ці каляровай паперы, якімі ўпрыгожвалі сцены, вокны, мэблю, паліцы для посуду і абразоў. Яны выконвалі тую ж самую ролю, што і тканыя посцілкі, маляваныя куфры, вышываныя і карункавыя ручнікі, дарожкі, сурвэткі, падузорнікі.

1950-1970-я гады – час амаль поўнага заняпаду выцінанкі. У традыцыйным побыце яна ўжо не сустракалася.

Значную ролю ў другім нараджэнні выцінанкі адыгралі майстры Маладзечна. Тут пры музычным каледжы імя Міхала Клеафаса Агінскага адкрылі аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

У 2016 годзе аддзяленню споўнілася 20 год. За гэты час выцінанку прадстаўлялі ў Польшчы, Германіі, Маскве. За якасныя работы з розных матэрыялаў некаторыя навучэнцы аддзялення атрымалі прэміі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

– Мы хочам, каб нашы наведнікі параўналі, як развівалася выцінанка стагоддзі таму ў вырабах народных майстроў і як яна развіваецца сёння, калі вырабы з паперы ствараюць прафесійна.

Усіх, хто хоча пазнаёміцца з мастацтвам стварэння ўзораў з паперы, чакаюць **14 лютага, а 15 гадзіне** ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сілівановіча па адрасе: **Вілейка пл. Свабоды, 1.** Тэлефон для даведак **5-41-47.**

Кожны з наведнікаў можа сам паспрабаваць стварыць выцінанку.

**Аддзел інфармацыі.**

# Маладзечанскі варатар у Стакгольме: "Я тут зусім абшведзіўся"

МАЛАДЗЕЧНА

**– Кавярня "Уінстан Чэрчыль" – гэта ў цэнтры, ведаю. Буду праз 10 хвілін, – прапішчала смс у тэлефоне.**



26-гадовы маладзечанскі футбаліст Піліп Вайцяховіч ужо пяты год жыве ў Швецыі. Гуляць у футбол яму тут падабаецца, а вось нацыянальная кухня выклікае пытанні.

А значыць, сустрэча з маладзечанцам **Піліпам Вайцяховічам**, які ўжо пяць гадоў жыве ў Стакгольме і гуляе тут у футбол, адбудзецца.

Амаль дзве гадзіны ў шведскім пабе праляцяць незаўважна, бо за гэты час Піліп паспее расказаць не толькі пра футбол, але і пра шведскіх жанчын, пра катлеты з варэннем, пра традыцыю адзначаць кожную перамогу, і пра рускія мацюкі, якім Піліп ужо навучыў шведаў.

Піліпу Вайцяховічу 26 гадоў, але маладзечанскім футбалістам яго не назавеш, бо толькі да 12 гадоў наш трэнер **Аляксандр Гармаза** прышчэпліваў хлопчыку любоў да гэтай гульні, а потым юнак з'ехаў у Расію. Калі яму было 16, вярнуўся і некаторы час гуляў за мінскую каманду. А калі выпаў шанец з'ехаць у Швецыю, не думаў ні хвіліны.

**– Я даўно марыў "зваліць". Таму ні секунды не вагаўся.**

Я вяртаўся аднойчы ў Беларусь на паўгода, але зразумеў, што тут лепей. Вы ж самі бачыце, што тут найлепш развітая інфраструктура, тут лепшая якасць футбольных палёў, тут лепшыя ўмовы і лепшыя заробкі. Некаторыя клубы нават сваім гульцам даюць карыстацца машынай, аплачваюць пражыванне.

Узамен на ўсе гэтыя выгоды, канешне, трэба шмат працаваць. Гэта парада тычыцца ўсіх, хто марыць пераехаць у Швецыю, а не толькі футбалістаў.

Піліп расказаў, што за амаль пяць год жыцця ў Стакгольме зразумеў, што вялікія грошы тут ніхто плаціць не будзе.

– Тут мільёны такіх, хто вырашыў "зваліць". Трэба быць гатовым да таго, што першы час давядзецца шмат працаваць за вельмі невялікія грошы. І, вядома, вучыць шведскую мову.

Сам Піліп калі прыехаў у Швецыю, добра ведаў англійскую мову.

– Каманда была амаль інтэрнацыянальная, у ёй было ўсяго восем шведаў, таму камунікаваць было лёгка. Усе вывучылі рускае слова б...ь. І неяк хутка стала зразумела ўсім, якую сітуацыю на полі так апісваю я, – смяецца Піліп.

Нягледзячы на тое, што Піліп ужо амаль атрымаў шведскае падданства, яму засталося толькі падпісаць кантракт са сваім чарговым клубам, шведы яму не падабаюцца:

– Ведаеце, яны ўсе такія ветлівыя, аж ванітуе. Яны просяць прабачэння за ўсё. Ім нават скажаш нешта непрыемнае, яны самі за гэта выбачацца. Канфлікт са шведам – гэта нешта з вобласці фантастыкі. Толькі я стаў заўважаць, што сам таксама зусім "абшведзіўся".

### Шведкам мужчыны ні да чаго

– Я сустракаўся са шведскімі дзяўчатамі. Ну што магу сказаць, калі цяпер у мяне дзяўчыны няма, яны зусім непадобныя да нашых дзяўчат.

Шведкі, як прызнаецца Піліп, вельмі незалежныя і самастойныя. Яны самі зарабляюць грошы, яны занятыя сваімі справамі.

– Спачатку я вельмі радаваўся гэтаму. У мяне ж пастаянна пералёты, дома бываю рэдка.

**А дзяўчына магла за два тыдні даслаць смс, а магла і ні разу не спытацца, як у мяне справы.**

Канешне, спачатку радаваўся, што не трэба сапліўых смс па 300 штук на дзень слаць, што вось дзяўчына галаву не дурыць. А потым аказалася, што я ж выхоўваўся ў іншых умовах. Мне хочацца, каб дзяўчына адчувала тое, што я ёй патрэбны. А шведкам, па сутнасці, мужчыны ні да чаго. Яны ўсё самі.

Варатару Піліпу Вайцяховічу ў Стакгольме сумна, бо акрамя трэніровак яму рэдка ўдаецца куды выбірацца.

– У мяне па восем гадзін на дзень трэніроўкі, масаж, басейн. Жыву на ўскраіне Стакгольма, таму горада амаль і не бачыў. Няма калі. А ў адпачынку, які ў мяне ў снежні, еду ў Маладзечна, да бабулі і дзядулі.

Больш за ўсё ў Швецыі Піліпу не хапае сяброў.

– Запрашаў не раз, але ва ўсіх справы, усім няма калі. Мару перавезці сюды свайго сябра **Ягора**. Ён гітарыст у маладзечанскім гурце "Канфлікт". Я спрабую займацца музыкай, дыджэінгам, вельмі хачу разам з ім скарыць пару-тройку шведскіх клубаў. А, сын Аляксандра Гармазы прыязджаў, але праездам. Мы з ім сябруем. Зімой быў у іх у гасцях. Размаўлялі пра футбол, таму я добра ведаю пра становішча ў маладзечанскім футболе, сачу за камандай, але на стадыёне не быў ужо гадоў дзесяць.

### Футбол – не рэлігія, а звычайная праца

Чым адрозніваецца шведскі футбол ад беларускага? Ды ўсім.

Калі ў Беларусі тры лігі, то ў Швецыі іх 9-10.

На матчы ў сярэднім ходзіць каля 20 000 чалавек, калі праходзіць гульня нейкіх гарадскіх дэрбі, то на стадыёнах збіраецца да 70 000 чалавек. Падчас матчаў на стадыёнах няма паліцыі:

– Ты проста падносіш свой квіток да тэрмінала, і вароты адкрываюцца. Можаш заходзіць хоць з чамаданам.

Па-другое, каб паглядзець футбол па тэлебачанні, трэба заплаціць за гэта.

– Футбол паказваюць толькі па платных каналах. Таму і якасць карцінкі, і каментавання адпаведная. Лічу, што гэта добра. Бо ў заўзятараў ёсць стымул не сядзець дома, а прыязджаць на стадыён, заўзець за каманду.

Здзіўляўся спачатку Піліп і таму, што яго каманда адзначае і радуецца кожнай перамозе:

– Мы так у Беларусі адзначаем толькі перамогу ў сезоне або калі выйгралі нейкі кубак. А тут не, пасля кожнай перамогі футбалісты крычаць, б'юцца аб сцяну, абліваюцца вадой, скачуць і спяваюць камандную песню.

А чым падобныя, дык тым, што ўсе футбалісты вераць у прыкметы.

**– У нас быў выпадак, калі трэнер вымусіў усіх футбалістаў выйсці з аўтобуса і ісці да стадыёна пешшу, бо вадзіцелю трэба развярнуць аўтобус заднім ходам.**

А гэта дрэнная прыкмета. У мяне па маладосці таксама было шмат забабонаў, але потым я ўцяміў, што футбол – гэта проста мая работа, а ніякая не рэлігія. Вы ж, журналісты, не пачынаеце пісаць артыкул левай рукой, бо гэта на шчасце?

Калі гаварыць пра ідэальнасць Піліпа з агульнага пункту погляду, то ён, безумоўна, ідэальны – не п'е, не курыць, займаецца спортам, прытрымліваецца пэўнага рэжыму.

– Ну ідэальны – гэта моцна, – саромеецца Піліп, – для кагосьці можа і ідэальны, а хтосьці і калічам назаве, бо ў мяне строгі рэжым. Я не дазваляю сабе расслабляцца. Прысмакі ем толькі ў снежні, калі ў мяне адпачынак. Гэта не капрыз, проста маё здароўе – гэта мой інструмент для таго, каб зарабляць грошы. Таму трэба думаць пра свой фізічны стан круглы год.

Адзінае, ад чаго Піліп не можа адмовіцца, гэта ад бабуліных дранікаў і маладзечанскіх глазураваных сыркоў.

– Калі сваякі прыязджаюць да мяне, бабуля заўсёды пячэ цэлую патэльню дранікаў. Тут лёту паўтары гадзіны, яны і астыць не паспяваюць. А яшчэ мая слабасць – гэта маладзечанскія сыркі ў такой залацістай абгортцы. Бабуля за раз перадае мне штук 40.

**– А як жа шведская кухня?**

– Ну, а што шведская кухня? Катлеты з варэннем і тухлы селядзец. Не, лепш бабуліны дранікі.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

**1.** Прыстасаванне для замацавання чаго-небудзь.
2. У 1853 годзе ўпершыню іх зрабіў Леві Страус.
5. У французскім перакладзе казак “Тысяча і адна ноч” гэтая расліна значыць “сезам”.
7. Майстэрня ганчара.
10. На борце паднятага карабля 18 стагоддзя сярод рэчаў доктара быў вялікі драўляны малаток. Што замест яго выкарыстоўваюць цяпер?
12. Які мае патрэбныя якасці, падыходзіць для мэтаў.
15. Памяшканне для адзіночнага зняволення.
16. Шэлінг казаў, што архітэктура – гэта ..., якая застыла.
22. Гравітацыйны ... – сцісканне газавага воблака ці зоркі, што вычарпалі ядзерныя крыніцы энергіі, пад дзеяннем уласнай гравітацыі. У ядрах масіўных зорак прыводзіць да выбуху звышновай і ўтварэння нейтроннай зоркі ці чорнай дзіркі.
24. Вязень – зняволены пад вартай.
25. “Bis dat, qui cito dat” з лацінскай – двойчы дае той, хто дае ...
26. Што ў перакладзе з іспанскай значыць прозвішча Калумб?
27. Нізкі гумовы абутак, які надзяваецца паверх другога для засцярогі ад сырасці
28. Імклівы напад войск на праціўніка.
30. Непаслухмяны свавольнік.
34. Народны мастак Беларусі, аўтар карціны “Партызанская мадонна”.
36. Музычны інструмент, па вышыні гуку сярэдні паміж кларнетам і флейтай.
37. Юлій Цэзар загадаў сваім салдатам упрыгожваць іх каштоўнасцямі.
39. Галаўны ўбор прадстаўнікоў вышэйшага духавенства і некаторых заслужаных святароў, які надзяваюць падчас набажэнстваў.
41. Першы расійскі серыйны, ён быў прадстаўлены публіцы ў 1896 годзе аўтарства Фрэзе і Якаўлева на Ніжагародскай выставе.
46. Знешняя, паказная прыстойнасць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. Масавая гібель жывёлы ў час эпідэміі.
4. Пякучая крапіва з дробным круглым лісцем.
6. Кропка перасячэння нябеснай сферы з лініяй над галавой назіральніка.
7. Цвёрдасць металу, якая надаецца гартаваннем.
8. Сталіца Інданэзіі.
9. У Маладзечне гэта ўстанова месціцца па Гарадоцкай вуліцы.
11. Зусім, поўнасцю, падчыстую.
13. Разавае выштурхванне паветра з лёгкіх.
14. Што значыць “класіцызм” у перакладзе з латыні.
17. У старажытнасці горад, абнесены частаколам.
18. Так французы называюць першы стрэл па мішэні.
19. Яна вывучае светлавыя з’явы ў фізіцы.
20. Пачуццё ўдзячнасці за штосьці добрае.
21. Падаючая зорка.
23. “Оле Лукойе”па-дацку – гэта “... вочы”.
24. Збіранне вадкасці з крываносных сасудаў у якой-небудзь поласці пры запаленні.
25. Расійскі цар Аляксандр III любіў частаваць генералаў гарэлкай, схаванай у шырокім галянішчы ботаў. Як тады называлі галянішчы?
29. Так мы называем фрукт, які ў перакладзе гучыць як "кітайскі яблык".
31. Самка лася.
32. Галоўны персанаж рамана, у якім ёсць фраза: “Пачалося з няўмення адзяваць панчохі, а закончылася няўменнем жыць”.
33. Народ, што складае асноўнае насельніцтва паўночна-ўсходніх тэрыторый Іспаніі і суседніх паўднёва-заходніх раёнаў Францыі. Ад гэтага слова паходзіць назва элемента жаночага адзення.
35. Абутак па-татарску.
36. Франклін казаў, што час – гэта ...
38. Беларуская рэдкая мучная страва з мясам, кілбасой і прыправамі.
40. Ён дасканала валодае тэхнікай свайго мастацтва.
42. Па гэтым прадмеце адзення лёгка пазнавалі варвараў.
43. Прыстаўная лесвіца.
44. Старажытны рукапіс.
45. Чалавек, які заклапочаны толькі такімі справамі, што прыносяць яму асабістую выгаду.

## Адказы на красворд з №5

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Таёта. 2. Выпарванне. 5. Лявоны. 6. Кунігас. 10. Байкал. 12. Лясун. 14. Дровы. 15. Азон. 16. Бабёр. 18. Адважным. 20. Акіян. 21. Дамаск. 23. Горы. 26. Лета. 28. Азгур. 30. Дойлід.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 3. Дойлідства. 4. Метабалізм. 7. Канверсія. 8. Вырубка. 9. Маджэнта. 11. Харугва. 13. Верв. 17. Ікар. 18. Атлас. 19. Ківі. 21. Дождж. 22. Неўры. 24. Мезлева. 25. Оскар. 27. Страха. 29. Гомель.

## ГАРАСКОП 10-16 ЛЮТАГА



**Авен.** Многа сумненняў і перамен, якія звязаныя з матэрыяльнымі пытаннямі. І адначасова з’яўляецца цяга да азартных гульняў ці нечага рызыкоўнага. Але тут трэба ўмець спыніцца, адумацца. Сканцэнтруйцеся лепш над чымсьці важным, і вы дасягняце добрых вынікаў.



**Цялец.** Вам цяпер лепш заняцца домам, нікуды асабліва не рвацца, не спяшацца і дзейнічаць павольна. Гэта нельга назваць адпачынкам, але ўсё ж стан спакою. Задавольвайцеся тым, што ёсць, і культывуйце гэта.



**Блізняты.** Не зводзьце сябе спробамі штосьці абавязкова зрабіць ці паспець. Лішняе і непатрэбнае адыдзе само, і тады стане вядома, за што трэба брацца, а што адпусціць.



**Рак.** У вас з’яўляюцца жаданні, якія не ўпісваюцца ў вашы магчымасці. З-за гэта дае збой эмацыйны фон. Але ў той жа час можа наступіць такая небывалая эмацыйная стабільнасць, адсутнасць і радасці, і расчаравання, менавіта той стан, калі нічога не трэба і не хочацца. Калі гэты стан прыйдзе своечасова, то вы не паспееце натварыць спраў па першапачатковаму ідэйнаму парыву.



**Леў.** Вам можна смела ісці за сваёй марай, асабліва калі яна носіць матэрыяльны характар. Але нават калі які і іншы, вашаму поспеху гэта не перашкодзіць. Праграмы здароўя, запісаныя ў вашай ДНК, актывуюцца і пачнуць узнаўляць здароўе на ўсіх узроўнях вашага арганізма.



**Дзева.** Вам у спробах развіць сваё ўласнае жыццё перашкаджае адмоўны бок вашай натуры. Стрымлівайце сябе, каб не сысці да высвятлення адносінаў і пошуку правых і вінаватых.



**Шалі.** Больш гуляйце на свежым паветры. З-за халоднага надвор’я гэта не вельмі прыемна, але ўсё ж карысна.



**Скарпіён.** Цяпер закладваюцца важныя асновы для вашага далейшага жыцця. І хаця глабальных перамен цяпер не бачна, але першыя крокі будуць зробленыя менавіта ў гэты час. Значна пазней убачыце і канчатковы вынік. Будзьце ўважлівыя з дакументамі. Прымайце дапамогу толькі ад блізкіх.



**Стралец.** Пашырыліся рады нядобразычліўцаў і ворагаў, а саюзнікаў вы страцілі. Так, гэта замкнутае кола: у вас ёсць падставы не давяраць людзям, у іх – быць пакрыўджанымі вашым недаверам. Рана ці позна вы дасягняце крытычнай кропкі. Менавіта ў гэты момант пачнуць фарміравацца новыя, больш узважаныя адносіны да свету ў цэлым і да людзей у прыватнасці.



**Казярог.** Зоркі перасцерагаюць вас ад прыняцця неабдуманых рашэнняў. Любыя вашы дзеянні павінны прыносіць задавальненне.



**Вадалей.** Душэўная раўнавага і ўнутраная гармонія будуць напаўняць вас на працягу ўсіх дзён, што спрыяльна адаб’ецца на ўсіх падзеях і дзеяннях, у тым ліку на эмоцыях і самаадчуванні.



**Рыбы.** Прысвяціце дні зараблянню грошай, абуладкаванню жылля, рамонту і іншым дзеянням, якія звязаныя з павелічэннем свайго матэрыяльнага ўзроўню.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

Прэм’ера. **“Свята для Санькі”** (навагодняя камедыя-казка для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава*
10 лютага – у 12:40

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Шукаю сапраўднага мужчыну**” (камедыя ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
14 лютага – у 19:00

“**Месье з рагамі, мадам з вусамі**” (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях), *Марсэль Берк’е-Мерынье, Анатоль Курбскі*
17 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

**Тэлефоны:**
**74-63-86** – намеснік дырэктара,
**74-63-88** – галоўны адміністратар,
**74-63-85** – каса.
E-mail: modt@tut.by
Сайт: theatre-modt.by
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

“**Насарог і жырафа**” (лірычная казка), *Х.Гюнтэр (бел.)*
12 лютага – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 74-63-79, 50-56-96, 74-63-91.**

УНП 600136804

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

## 11 лютага, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -11 / -4 | | -7 / -4 | | -6 / -5 | | -6 / -12 | |
| | 759 | ↓ 2 | 760 | ↓ 2 | 761 | ↘ 4 | 760 | ↘ 5 |
| Вільня | -9 / -3 | | -6 / -4 | | -7 / -4 | | -7 / -6 | |
| | 768 | ↙ 2 | 768 | ↖ 3 | 770 | ↙ 1 | 769 | → 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Цiск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.40
Захад 18.13
Даўжыня дня 9.33

Усход 18.57
Захад 8.46
Поўня




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -26,1 °C у 1985 годзе
Максімальная тэмпература +7,3 °C у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 4,9 мм у 1964 годзе
Паводле meteoinfo.by

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Наталлі ТУР.

**У цёплай сажалцы пад Маліноўшчынай плавае безліч качак. Калі падыходзіш бліжэй да сажалкі, што знаходзіцца каля спіртзавода ў Маліноўшчыне, над вадой разносіцца гучнае кракатанне. І чарада качак пачынае адплываць ад берага, дзе яшчэ хвіліну таму яны грэлі свае бакі пад лютаўскім сонцам. А можа, не толькі з Маладзечанскага раёна прыляцелі сюды зімаваць? Калі вы не ведаеце, як правесці выхадныя, бярыце з сабой пад паху батон і едзьце ў Маліноўшчыну, каб пакарміць гэту птушыную армію.**

МОЛОДЕЧНОМЕБЕЛЬ
ЗАКРЫТОЕ АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО
КОРПУСНАЯ МЕБЕЛЬ -20%
-22% МЯГКАЯ МЕБЕЛЬ
*только до 28 февраля
Молодечно
ул. Металлистов, 1
(8033) 665-18-81
ул. Л.Роменская, 83-а
(8044) 708-51-81
УНП 600203065

## Чытайце праз тыдзень:

● **Шведскі стол, шведская сценка ды Карлсан. Што мы яшчэ ведаем пра гэту краіну? А між тым тут на вокны не вешаюць шторы і выстаўляюць агеньчыкі, каб падарожнік не заблудзіў, тут ядуць мяса з варэннем і ходзяць у бар з сабакамі. Пра тое, што здзівіла і ўразіла ў Швецыі, — чытайце праз тыдзень.**

Товары для дачи
✓Теплицы
✓Беседки
✓Души
✓Мотоблоки
Рассрочка
Доставка по Беларуси = 0 руб.
Первый поставщик в Республике Беларусь
(8-044) 549-16-44
ООО «Капасити».
УНП 691786577

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Сумна, калі раптам разумееш, што жанчыны, якім ты прысвячаў вершы, не вартыя нават знакаў прыпынку.

***

Усё ламаецца: пачуцці, людзі, прас. Асабліва прас мяне засмуціў. Вось ад яго не чакала.

***

Спіс бессэнсоўных рэчаў, якія робяць усе людзі:

– Адчыніць халадзільнік, паглядзець і зачыніць.

– Паглядзець час на мабільным тэлефоне і адразу пра яго забыцца.

– Калі мікрахвалёўка зазвініць у чарговы раз, сказаць: "Ды ведаю я, ведаю."

– Схадзіць у магазін, у выніку вярнуцца з безліччу розных непатрэбных рэчаў, але без цукру.

– Тыцкаць у кнопку выкліку, каб ліфт хутчэй прыехаў.

***

– А давай зладзім свята! Ты ўсё прыгатуеш...

– А ты?

– А я – прыйду!

ЧАСТНОПРАКТИКУЮЩИЙ ВРАЧ ПСИХОТЕРАПЕВТ
СУРОВЦЕВ Николай Викторович
• Консультирование
• Психотерапия панических атак, тревоги, депрессии, психосоматических, поведенческих и других невротических расстройств
• Гипнотерапия
• Психотерапия алкогольной зависимости
• Кодирование
г. Молодечно ул. Будавников, 4а каб. 35
+375 44 456 25 46
www.psyhoterapia.by
postmaster@psyhoterapia.by
Лицензия МЗ РБ № 02040/76638 от 30.10.2013г. Срок действия по 30.10.2023 г.
ИП Суровцев Н.В. УНП 691513732

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці хацелі б вы жыць за мяжой?



**Іван Ляўданскі, навучэнец:**
– Не хацеў бы. Лічу, што трэба жыць там, дзе ты нарадзіўся, паважаць тое месца, дзе жывеш, і традыцыі сваіх продкаў.



**Кацярына Цярэшка, выкладчыца:**
– Жыць пастаянна – не. А мець магчымасць падарожнічаць па замежных краінах, вядома, хацела б. Пакуль на гэта то часу, то грошай не хапае.



**Лізавета Сянько, вучаніца:**
– Хачу застацца ў Беларусі. Тут мой дом і сябры. А за мяжой усё чужое.



**Алег Бандарчык, аўтаслесар:**
– Ведаеце, ёсць такое добрае выказванне: там добра, дзе нас няма. З'едзеш ад праблем з Беларусі, знойдуцца праблемы ў Амерыцы або Германіі. Наўошта мяняць адны праблемы на іншыя?



**Святлана Пісаронак, студэнтка:**
– Напэўна, не. Іншыя людзі, незнаёмая краіна. Ні сяброў, ні сваякоў.



**Максім Машко, таксіст:**
– Хацеў бы. З'ехаць ад прывычных рэчаў, абстаноўку памяняць, можа, грошай зарабіць. Напэўна, адразу б не ехаў назаўсёды. Паехаў на некалькі б месяцаў. А каб спадабалася, то і застаўся.



**Анастасія Манько, навучэнка:**
– Гледзячы куды з'язджаць. Напрыклад, у ЗША хацела б. Там якасныя канцылярскія прылады. А я вельмі люблю такія рэчы. Ежа таксама ў Амерыцы цікавая, і ў катэджах усе жывуць.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№6 (1137) 10.02.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 132. Падпісана ў друк у 9.00 9.02.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.